E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 22 (27) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ЛІСТАПАД 2003 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС* 63773 http://nchas.iatp.by

**Пазіцыя**

## Добрыя намеры

На сустрэчы з журналістамі ў Магілёве міністр інфармацыі Беларусі Уладзімір Русакевіч заявіў, што на Першым Нацыянальным тэлеканале рэспублікі павінна быць болей праграмаў на беларускай мове. Па ягоных словах, гэта прынцыпова і зацікаўлена абмяркоўвалася з кіраўніцтвам Белтэлерадыёкампаніі ды іншых каналаў. «Міністэрства інфармацыі зацікаўлена, – сказаў міністр, – каб на Першым тэлеканале вяліся ўсе праграмы на роднай мове, і мы будзем рабіць усё, што ад нас залежыць, каб паправіць цяперашняе становішча».

Так хочацца падмануцца такімі ўзнёслымі словамі, ды вопыт папярэдніх гадоў не дае. Усе рэформы беларускага тэлебачання, якія ўслед за крытыкай агалошваюцца па некалькі разоў на год, завяршаліся звужэннем ужывання на тэлебачанні беларускай мовы і пошукам тэлекаментатараў, якія наогул не могуць размаўляць па-беларуску. Усё астатняе застаецца на ранейшым узроўні, як у тым квартэце, дзе бяздарныя музыканты мяняліся месцамі ў спадзеі дабіцца механічным шляхам творчай гармоніі.

Да таго ж ад міністра інфармацыі няшмат залежыць у тэлесферы, якой апякуюцца слугі народа, якія стаяць вышэй на пасадных ступенях. Адзінае, што вынікае з гэтай заявы міністра, дык што ўладныя структуры ўсё ж разумеюць ненармальнасць становішча, калі мова тытульнай нацыі мае на тэлебачанні столькі часу, колькі рабіла б гонар якой нацыянальнай меншасці, прыкладам, чукчам ці эвенкам, якія таксама пражываюць у гасціннай Беларусі.





# Галоўная ёлка краіны

**Гэтая лясная прыгажуня на Кастрычніцкай плошчы сталіцы – сумесны «прадукт» прыроды і інжынернай думкі. Каб яго стварыць, трэба мець каля паўтары сотні такіх добрых невялікіх елак ( здымак унізе) і надзейныя металічныя канструкцыі (здымак уверсе). Як збіраюць ёлку, глядзі на стар. 3**





Пакуль што месца Дзеда Мароза каля ёлкі пільнуе міліцыянт

# Хмара над помнікам

Помнік Ларысе Геніюш усталяваны ў мінулым месяцы побач з Траецкай царквой. Дазвол на гэта даў мітрапаліт Філарэт. Адбылося адкрыцьцё, сьвятары асьвяцілі помнік. Аднак улады лічаць, што яго трэба дэмантаваць, паколькі яны сваёй згоды на ўсталяваньне не давалі.



Настаяцеля зэльвенскай царквы айца Аляксандра выклікалі ў райвыканкам. Яму сказалі, што каб паставіць помнік, трэба ўзгадняць гэта зь мясцовымі ўладамі, затым з абласнымі, а потым яшчэ зь Міністэрствам культуры. А паколькі гэтага не было зроблена, помнік Ларысе Геніюш трэба прыбраць.

«Будзе ўладыкі экзарха блаславеньне, – кажа айцец Аляксандар, – тады мы будзем дэмантаваць. Таму што ёсьць блаславеньне на ўсталяваньне. Канечне, улады могуць і сваімі сіламі, але гэта наўрад». Айцец Аляксандар разам зь сьвятарамі з Горадні ўдзельнічаў у асьвячэньні помніка Ларысе Геніюш. Без дазволу мітрапаліта Філарэта гэтая падзея не адбылася б. На адкрыцьці якраз падкрэсьлівалі, што нарэшце царква павярнулася тварам да нацыянальнай інтэлігенцыі, да эліты народу. Ініцыятар усталяваньня помніка Анатоль Белы зь Менску тады сказаў: «Яна абараняла царкву, ужо вярнуўшыся з турмы, будучы сама пакутніцай, будучы гнанай, яна ўзьнімала голас у абарону царквы, у абарону сьвятара. І калі я паказаў гэтыя доказы ўладыку Філарэту, мітрапаліту Менскаму і Слуцкаму, ён проста сказаў: так, яна сапраўды вялікая пакутніца».

Вярнуўшыся з ГУЛАГу, Ларыса Геніюш пасялілася ў Зэльве побач з царквой, якой не баялася наведваць. Ініцыятары ўсталяваньня помніка лічаць, што паколькі ён стаіць на царкоўным пляцы, узгадненьне з уладамі не патрэбнае. А што датычыць згоды ўраду, дык, паводле закону, яе трэба мець толькі пры ўсталяваньні помнікаў рэспубліканскага значэньня.

Тым ня менш, міністар культуры заявіў у Менску, што ў Беларусі апошнім часам усталёўваюць помнікі без адпаведнага дазволу, у тым ліку і ў Зэльве. Пасьля гэтага ў Зэльвенскі райвыканкам прыехала Марыя Бірукова – намесьнік старшыні аблвыканкаму, галоўны ідэалягічны начальнік у вобласьці.

Паводле няспраўджанай інфармацыі, на дэмантаж помніка Ларысе Геніюш дадзены тыдзень. Між тым, мітрапаліт Філарэт, які даў дабраславеньне на помнік, адсутнічае і вернецца ў Менск толькі 13 сьнежня. Зацікаўленыя асобы лічаць, што ад ягонай пазыцыі будзе залежаць шмат. Паколькі атрымаць афіцыйны дазвол уладаў на існаваньне помніка паэткі нерэальна, яны будуць спасылацца на тое, што яе дагэтуль не рэабілітавалі. У выпадках, якія падобныя да цяперашняга, улады дзейнічалі аднолькава: уначы дэмантавалі памятныя крыжы, усталяваныя грамадзкасьцю. Гэтак было ў Горадні, у Лідзе і ў Лідзкім раёне. Жыхар Зэльвы Юры Качук разам зь іншымі ставіў помнік Ларысе Геніюш. «У Зэльве, – кажа Ю.Качук, – будзе тады вялікі рэзананс: спачатку паставіць помнік, а потым зьняць. У нас сатаністы толькі білі помнікі». Юры Качук гаворыць, што ня так даўно ў Зэльве судзілі маладзёнаў, якія разьбівалі надмагільныя помнікі. Дарэчы, камень зь бюстам Ларысы Геніюш стаіць на царкоўным цвінтары побач з старымі надмагільнымі помнікамі. Ю.Качук таксама зазначае, што зэльвенцы вельмі станоўча ўспрынялі зьяўленьне каля царквы помніка вялікай беларускай паэтцы, іхнай зямлячцы.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**
*Радыё Свабода*

# Праваабарончыны альянс Беларусі

Новая грамадская арганізацыя «Праваабарончы альянс Беларусі» створана ў Мінску. Яе заснавальнікамі выступілі вядомыя апазіцыйныя дзеячы Беларусі. Лідэрам альянса на ўстаноўчым сходзе абрана Людміла Гразнова, дэпутат Вярхоўнага савета Беларусі 13-га склікання, паведаміла ІА «Росбалт». У назіральную раду арганізацыі выбраны экс-дэпутаты беларускага парламента Андрэй Клімаў, Уладзімір Кудзінаў, экс-прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы Васіль Старавойтаў, былы прэм'ер-міністр Эстоніі Март Лаар, адна з лідэраў расійскага СПС Ірына Хакамада.

Легендарны старшыня калгаса, удзельнік вайны Васіль Старавойтаў, які два гады адбываў зняволенне пры Лукашэнку, заявіў, што мэтай новай арганізацыі з'яўляецца жаданне змяніць да лепшага грамадска-палітычную і эканамічную сітуацыю ў Беларусі. «Мы ведаем, як жывуць людзі ў Польшчы і краінах Балтыі, – адзначыў Старавойтаў. – А беларусы, якія раней экспартавалі прадукты харчавання, сёння вымушаны купляць іх за мяжой».

Заснавальнікі новай арганізацыі паведамілі, што яе рэгістрацыя адбудзецца ў Літве, паколькі «ў Беларусі зарэгістраваць яе немагчыма». Як было адзначана, у бягучым годзе беларускія ўлады ліквідавалі ў краіне амаль усе праваабарончыя арганізацыі.

*BelarusFree.org*

# Ці стане «Веснік БДУ» нацыянальным выданнем?

Як вядома, навукова-тэарэтычны часопіс «Веснік БДУ» разлічаны і на навукоўцаў, і на масавага чытача. З горыччу даводзіцца канстантаваць, што першая і другая серыі часопіса (прыродазнаўчая тэматыка) выдаюцца выключна на рускай мове, а ў нумарах наступных серый (грамадскія і філалагічныя навукі) на роднай мове змяшчаецца ўсяго каля 10 працэнтаў артыкулаў. Такім чынам, ігнаруючы беларускую мову, часопіс заняў антыдзяржаўную пазіцыю, скіраваную супраць нацыянальных інтарэсаў нашага народа.

На наш погляд, рэальны стан спраў у «Весніку» тлумачыцца «творчым» патэнцыялам кадраў часопіса, дзе ніводны супрацоўнік не мае вучонай ступені. Дагэтуль узначальвае часопіс выпадковы чалавек. Беларусь багатая на таленавітых людзей, прыдатных плённа працаваць у беларускім друку, але, на жаль, для «Весніка БДУ» іх не знайшлося.

Лічым, што ў наш час, калі Беларусь стала незалежнай дзяржавай, калі стварыліся ўмовы для сапраўднага адраджэння нашай культуры і мовы, «Веснік БДУ» абавязкова павінен стаць нацыянальным выданнем, гэта значыць улічваць сваю аўтарытэтную ролю ў культуры і той патэнцыял, які мае нацыянальная навука.

**Пётр БАРАНОЎСКІ**

## Спадчына

# Гандаль народнай маёмасцю

Як паведамляюць інфармацыйныя агенцтвы, у Гродне на аўкцыён выстаўлены будынак, у якім была раней абласная бібліятэка імя Карскага. Сярод пазначэнняў яго вартасцяў узгадваюць, што ён некалі належаў князю Мураўёву. Рашэнне прадаць будынак праз аўкцыён (гэта значыць за магчыма большыя грошы) улады прынялі нібыта дзеля таго, каб захаваць гэты гісторыка-архітэктурны помнік. Улады быццам бы мяркуюць, што прыватны гаспадар будзе клапаціцца, каб яго маёмасць выглядала так, як захочацца гораду. Пакупнік, які пераможа на аўкцыёне, мусіць прыняць на сябе абавязацельствы па аднаўленні гістарычнага вобліку дома, а калі ён іх паруша, то страціць правы на будынак

Такая практыка, як нам тлумачаць, існуе ў некаторых культурных краінах. І ў нас, калі верыць уладам, яна таксама прышчэпліваецца. Прыкладам, на думку чыноўнікаў, дзякуючы такім аўкцыёнам каля 20 гістарычных аб'ектаў, якія сталі прыватнай уласнасцю, актыўна рэстаўруюцца.

Аднак паверыць у гэта немагчыма, бо Беларусь тэхналагічна не можа весці рэстаўрацыю – у нас няма вытворчасці адпаведнай цэглы, дахоўкі, рабочых-рэстаўратаў неабходнай кваліфікацыі. У лепшым выпадку рэстаўрацыя будзе імітавацца, і для народу застануцца фасады. Усё, што схавана за імі, можна лічыць страчанай спадчынай.

**Іван БЯЛЬКО**

# Бацькі ліцэістаў – міністру адукацыі

25лістапада бягучага года бацькоўская Рада НДГЛ імя Якуба Коласа накіравала ліст міністру адукацыі сп. А.Радзькову з патрабаваннем неадкладна змяніць антыпраўнае становішча, у якім апынуліся навучэнцы ліквідаванага ліцэю.

У лісце гаворыцца, што ў Беларусі сёньня няма гуманітарнага ліцэю з беларускай мовай навучаньня, і дзеці не маюць магчымасьці афіцыйна працягваць навучаньне па тых вучэбных праграмах, з якімі яны пачыналі сваю вучобу. Бацькам прапануюць перавесьці іх у розныя сярэднія школы, гімназіі горада Менску. Але ж яны абіралі, згодна з Канстытуцыяй і Законам «Аб адукацыі», менавіта беларускамоўны і гуманітарны ліцэй .

Міністэрства адукацыі, як і гарадскі камітэт па адукацыі і справах моладзі, мелі магчымасьць пераканацца ў тым, што бацькі навучэнцаў зачыненага ліцэю прынцыпова супраць таго, каб пагадзіцца з антызаконным рашэньнем адукацыйных уладаў – вярнуць сваіх дзяцей у школы па месцы жыхарства.

Пастановай Савета Міністраў № 850 ад 25 чэрвеня гэтага года Мінгарвыканкаму рэкамендавалася стварыць Мінскі дзяржаўны гуманітарны ліцэй і гэткім чынам забяспечыць магчымасьць дзецям надалей атрымліваць ліцэйскую адукацыю на беларускай мове. У лісьце да сп. Радзькова адзначаецца, што гэтае рашэньне не было выканана ні да пачатку навучальнага года, ні да сёняшняга дня: ніякага беларускамоўнага ліцэю створана не было. Між тым, будынак, дзе праходзіла вучоба раней, стаіць пусты, рамонт там не робіцца, вопытныя педагогі выкінутыя на вуліцу.



У лісьце да міністра сказана: «Нагадваем Вам, што ў сістэме агульнай сярэдняй адукацыі хутка скончыцца другая чвэрць, і любыя ўцёкі ад канкрэтнай размовы робяцца ўжо ня проста халатным стаўленьнем да сваіх службовых абавязкаў».

Бацькоўская Рада НДГЛ імя Я. Коласа прапанавала міністру адукацыі ў тэрміновым парадку, на працягу сямі дзён, сустрэцца з бацькамі, каб у спакойнай і канструктыўнай атмасферы абмеркаваць шляхі выхаду з недарэчнага становішча, калі больш за 110 адораных дзяцей школьнага ўзросту ня могуць вучыцца. Адказу на свой ліст бацькоўская Рада не атрымала. Аб сапраўднай пазіцыі Міністэрства адукацыі сведчаць факты безумоўнага ціску на бацькоў і ліцэістаў, якія працягваюць вучыцца самастойна, атрымліваючы кансультацыі ў сваіх звольненых выкладчыкаў. Некаторыя дырэктары і настаўнікі сярэдніх школ і гімназіяў горада, з якіх дзеці ў свой час паступілі ў НДГЛ імя Я.Коласа, у шматлікіх тэлефонных размовах і асабістых сустрэчах прапаноўваюць вярнуцца назад у школы ці быць замацаванымі за імі праз хатняе, сямейнае і г.д. навучанне. Прычым гэтыя настойлівыя прапановы выказваюцца ў вельмі разнастайных формах: ад фармальна-спачувальных да агрэсіўна-пагражальных. Міністэрству адукацыі, напэўна, вельмі патрэбна адрапартаваць, што НДГЛ імя Я.Коласа ліквідаваны ня толькі юрыдычна, але і фактычна.

«У выніку антызаконных дзеяньняў уладаў ліцэісты апынуліся за межамі прававога поля, па-за сістэмай агульнай сярэдняй адукацыі, – пішуць бацькі. – Яны займаюцца ў складаных умовах, пазбаўленыя будынка ліцэю, светлых прасторных класаў, многіх прылад навучаньня. Іх абражаюць на вуліцы за тое, што яны гавораць па-беларуску, іх спыняюць людзі ў цывільным і абшукваюць заплечнікі. Бацькам даводзяць, што здаць экстэрнам іспыты будзе праблематычна, а звольненыя настаўнікі церпяць матэрыяльныя цяжкасці. Часам здаецца, што з дзецьмі вядзецца сапраўдная ціхая вайна. Але насуперак усяму ліцэісты маюць тое, дзеля чаго змагаюцца: павагу і любоў да сваёй мовы, павагу да саміх сябе, маюць шчасьце бачыць і чуць выдатных педагогаў.

Бацькоўская Рада НДГЛ імя Я. Коласа ўдзячна ўсім, хто падтрымліваў нас, хто разумее ўсе наступствы злачыннага знішчэньня беларускай адукацыі. Але змаганьне ня скончана. Таму ў чарговы раз просім неабыякавых людзей адгукнуцца і аказаць ліцэістам магчымую дапамогу».

**Кантактныя тэлефоны бацькоўскай Рады:**
**242–85–16, 226–61–01,**
**8–0296–703085**

# Алег Трусаў:
# «Мы баронім моўныя правы»

Грамадскае аб`яднанне «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» лічыць, што сённяшняя намаганні ейных сяброў – гэта інвестыцыі ў будучыню краіны, бо моўнае пытанне з кожным годам набывае ўсё большую вастрыню ў сувязі са свядомым звужэннем уладамі сферы ўжытку і вывучэння мовы тытульнай нацыі. Мы папрасілі старшыню ТБМ Алега Трусава адказаць на некалі пытанняў, датычных гэтай тэмы.



**– Спадар Трусаў, ці справядліва было б сцвярджаць, што за апошнія два гады ТБМ змяняе свой звычны культурна-асветніцкі накірунак на праваабарончы, у прыватнасці на абарону правоў грамадзяніна на родную мову? Часта можна чуць пра лінгвацыд у дачыненні да беларускай мовы, і такія меркаванні маюць падставы ў рэчаіснасці. Як магчыма ў нашых абставінах абараняць свае моўныя правы?**

– Мы не пакідаем культурна-асветніцкую працу. Самы лепшы прыклад гэтаму – гістарычныя семінары, што ладзяцца ў нас і на якія прыходзіць мноства людзей. Мы па ранейшаму праводзім літаратурныя імпрэзы, сустрэчы з пісьменнікамі, усё тое, чым арганізацыя займаецца традыцыйна згодна са статутам.

Але зараз, сапраўды, на першае месца выходзіць праваабарончая функцыя. Мы баронім лінгвістычныя правы грамадзян Беларусі, у першую чаргу, правы беларусаў на беларускую мову. І паспяхова. Мы прызнаныя адной з самых актыўных праваабарончых арганізацый краіны. Мы да гэтага не імкнуліся, гэтага не чакалі, але так склалася. Я думаю, што пакуль будзе гэтая ўлада, будзе цяперашняе стаўленне да мовы, праваабарончы аспект нашай дзейнасці будзе заставацца асноўным. Калі сітуацыя ў адносінах да беларускай мовы зменіцца ў лепшы бок, тады мы зноў засяродзімся толькі на культурна-асветніцкай працы.

**– Як вы лічыце, які зараз прыярытэтны накірунак для працы праваабарончых арганізацый і ўсяго трэцяга сектару?**

– Для любой арганізацыі трэцяга сектару вельмі важна наладзіць кантакт з уладай. Калі няма гэтага кантакту, тады праца не мае сэнсу. Калі няма абмену думкамі, адказаў на запыты, тады арганізацыя становіцца маргінальнай. Канешне, і такія патрэбныя, каб гуртаваць кнігалюбаў, калекцыянераў, аматараў кветак і г.д.

Наша мэта – кантактаваць, з аднаго боку, з шырокімі слаямі насельніцтва, а з другога – з уладамі. І за апошнія гады нам удалося ўстанавіць даволі цесны кантакт. У якасці прыкладу можна прывесці нашае ліставанне з адміністрацыяй прэзідэнта наконт ужывання беларускай мовы на тэлебачанні. Мы лічым выклікам нацыі тое, што зараз на Першым канале беларускага тэлебачання "Навіны" гучаць па-руску і суправаджаюцца субцітрамі з карацелькімі сказамі па-беларуску, і мы павінны на гэты выклік адказаць. Не лаяцца, не праводзіць пікеты, а дамагчыся ад улады адмены гэтакага непаважнага рашэння. І вось ужо больш за месяц мы вядзем дыялог з кіраўніком дзяржавы на гэтую тэму. У выніку мы спадзяемся, што беларуская мова вернецца ў «Навіны» і будзе пашырацца на ўсіх каналах. Ёсць пэўныя поспехі ў гэтым накірунку. Напрыклад, на тэлеканале «Лад» ужо тры месяцы дапамагае рабіць беларусамоўныя перадачы першы намеснік старшыні ТБМ спадарыня Людміла Дзіцэвіч.

Мы стараемся рэагаваць на розныя падзеі. Мы накіравалі ліст кіраўніку краіны з прапановай аднавіць рэстаўрацыю замка ў Лідзе. Мы паслалі ліст мэру Мінска сп. Паўлаву з прапановай надаць адной з мінскіх вуліц імя Вацлава Ластоўскага. Мы за гэтыя гады дабіліся таго, што ў Мінску ўжо ёсць плошча Францішка Багушэвіча, вуліца Ігната Дамейкі, адна з гарадскіх бібліятэк носіць імя Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Мы першымі напісалі ліст віцэ-прэм'еру Дражыну, каб ушанаваць памяць Васіля Быкава, і атрымалі адказ, што ў сталіцы будзе вуліца яго імя і мемарыяльны музей.

Зараз мы вядзем работу па вяртанні беларускай мовы на нашу чыгунку. Мы накіравалі ліст у Канстытуцыйны суд. Рэгулярна збіраем подпісы грамадзян і дасылаем кіраўніку чыгункі. Наша мэта – каб у электрычках зноў гучалі абвесткі па-беларуску. Спачатку нам адказвалі, што гэта немагчыма, што «праграму нельга перарабіць», а зараз ужо напісалі, што, магчыма, яны гэтым займуцца. Я думаю, што калі яны атрымаюць усе лісты з тысячамі подпісаў грамадзян, то не толькі паабяцаюць, але і зробяць.

Самая галоўная задача грамадскай арганізацыі быць тым лучвом, повяззю паміж грамадзянамі і ўладай. Калі гэта ўдаецца, то арганізацыя пачынае працаваць. Мы дабіліся зменаў у Законе аб стандартах, паводле якіх усе тавары, у тым ліку і нехарчовыя, павінны мець назвы па-беларуску. Зараз мы ўзяліся за назвы і надпісы на ўпакоўцы харчовых тавараў. Напрыклад, фабрыка «Камунарка» ўсе тэксты на абгортцы цукерак рабіла па-расейску, а зараз выйшла шмат цукерак, якія ўжо маюць на абгортцы беларускую назву і адпаведны тэкст.

**– Наколькі справядлівае сцвярджанне, што моўныя правы грамадзянаў у Беларусі парушаюцца літаральна на кожным кроку?**

– Парушаецца шмат правоў, але парушэнне моўных правоў найбольш відочнае і найбольш небяспечнае для будучыні народа і дзяржавы. Астатнія парушэнні не так кідаюцца ў вочы, бо не звязаныя са зменай мовы на мову, не агучваюцца штохвілінна ра радыё і тэлебачанні. Менавіта ў часы незалежнасці грамадзяне пачалі разумець, што яны маюць моўныя правы. Больш дасканалае разуменне гэтага прыйшло ў апошнія два-тры гады. Людзі маюць права атрымліваць любую інфармацыю на дзяржаўнай беларускай мове. Таксама і праходзіць на ёй усе ступені адукацыі. Нашыя грамадзяне, на жаль, не такія смелыя, каб бараніць свае правы адкрыта, але тыя, хто іх бароніць, тыя свайго дабіваюцца. Ёсць, напрыклад, Маша Каралькова ў Горках – вучыцца па-беларуску, адна, бацькі дабіліся гэтага, хоць там і адмаўляюцца стварыць беларускі клас. Гэта Горкі, не Мінск, малы гарадок. Правы ліцэістаў парушылі, зачыніўшы ліцэй з беларускай мовай навучання, а яны ўсё роўна вучацца па-беларуску. Таксама дзве групы ў медінстытуце навучаюцца на беларускай мове, амаль усе медыцынскія прадметы для іх выкладаюцца па-беларуску. Шмат што залежыць ад пазіцыі людзей, ад іхнага пачуцця сваёй годнасці.

**– Як вы патлумачыце тое, што для замежнікаў навучанне на беларускай мове ва ўніверсітэце, школе выглядае больш лагічным, чым для беларускіх студэнтаў?**

– Гэта яшчэ раз гаворыць аб тым, што мы толькі пачынаем разумець праблему. Раб толькі тады перастае быць рабом, калі разумее, што ён раб. А калі не разумее, дык ён так і жыве. Мы толькі апошнія два гады масава пачалі ўсведамляць, што мы не рускія, што тут не Расія. І вельмі актыўна нам у гэтым дапамагае прэзідэнт. Як выступіць дзенебудзь – дык адразу бачны ўздым тутэйшага патрыятызму. Людзі ўжо патроху разумеюць, што калі ўсё будзе па-беларуску, то жыць напэўна будзе не горш, чым калі ўсё па-расійску, а лепш. І прыхільнікаў уваходжання ў Расію шасцю губернямі нешта няма.

**– Нашыя чыноўнікі і кіраўніцтва дагэтуль не вельмі карыстаюцца беларускай мовай. Хутчэй, наогул не карыстаюцца, апроч «гуманітарных» міністэрстваў. Ці рабіла ТБМ нейкія захады ў гэтым накірунку? Бо зразумела, пакуль чынавенства будзе ігнараваць мову ці баяцца яе ўжываць афіцыйна, на сваёй працы, простым людзям прыйдзецца цярпець такі парадак.**

– Тут ёсць цікавая акалічнасць. ТБМ прывучыла ўсіх чыноўнікаў пісаць нам па-беларуску. Расійскамоўны тэкст мы проста вяртаем назад. Зараз усе нам пішуць на добрай беларускай мове. А што было б, калі б кожны грамадзянін вяртаў ліст на рускай мове і прасіў у адпаведнасці з Канстытуцыяй напісаць яму па-беларуску? Чыноўнік абавязаны гэта зрабіць, бо абавязаны валодаць дзвюма дзяржаўнымі мовамі. Чым больш людзей будуць так рабіць, тым больш іх правы будуць абароненыя. Двухмоўе азначае, што ў любой сітуацыі, калі вы звяртаецеся па-беларуску, вам абавязаны адказаць па-беларуску. А калі нехта не можа адказаць, то ён мусіць прасіць прабачэння, інакш грамадзянін мае права падаць у суд.

Трэба сказаць, што значная частка чыноўнікаў ведае беларускую мову, і як толькі зменіцца сітуацыя, яны пераойдуць на мову на працягу месяца. Проста зараз у іх асяроддзі па вядомых прычынах не вітаюць беларускую гаворку.

**– Сёння краіна перажывае складанасці ў эканамічным плане. Вы думаеце людзям ёсць справа, на якой мове з імі размаўляюць? Можа, іх больш цікавяць надзённыя пытанні...**

- Гэтыя дзве праблемы злучаюцца асабліва ў апошнія часы. Калі быў рэферэндум, многія казалі: «якая розніца», «нам усёроўна» і г.д.Зараз ёсць катэгорыя людзей, якая жыве бедна, і ёсць вялікая катэгорыя людзей, якія з кожным днём жывуць усё лепш. Колькасць іншамарак на вуліцах расце кожны год. Зараз фармуецца сярэдні клас.

Не трэба верыць афіцыйнай прапагандзе, што ўсе жывуць аднолькава. Я палічыў, што ёсць недзе каля 2 мільёнаў чалавек, якія навучыліся жыць ва ўмовах гэтай дзяржавы. І вось гэтыя людзі, якія маюць, што паесці, зараз ужо пачалі думаць, а хто яны такія. Менавіта ў такой сітуацыі ўзнікае павага да ўсяго роднага. Фактар незалежнасці пачынае выпрацоўваць нарэшце павагу да сябе. А па-другое, нашы людзі пакрысе асэнсавалі, што пераход на чужую мову нічога ім не прынёс. Мова і якасць жыцця не звязаны простай сувяззю. Калі рускія пяройдуць на карыстанне нямецкай мовай, яны не стануць жыць так добра, як жывуць немцы.

**– На фоне зачынення шмат якіх грамадскіх арганізацый ТБМ сваю працу працягвае, прычым даволі плённа. Як вы гэта патлумачыце?**

– Не ўсе памятаюць, што ТБМ спрабавалі зачыніць самым першым. У гэтых стасунках з дзяржавай, пра якія я казаў, ёсць два правілы гульні. Па-першае, нельга дзяржаву абражаць. Якая б яна ні была, гэта наша дзяржава. Тады і да нас ставіцца хоць насцярожана, але з павагай. Па-другое, самае галоўнае ў гэтай справе – будзённая штодзённая праца. Мы не лаемся, мы ўзгадняем пазіцыі, мы, калі патрабуюць інтарэсы справы, ідзем на кампраміс, вядзем дыялог, і такім чынам мы выйграем.

Ядвіга МАЦКЕВІЧ

## Галоўная ёлка краіны - тэхнічны цуд

Фотарэпартаж Ул. Шлапака









# З любоўю да роднага слова

Гаворкі беларускай мовы, як сведчаць шматлікія бібліяграфічныя даведнікі па нацыянальным мовазнаўстве, пачынаючы са з'яўлення навуковай цікавасці і грамадскага інтарэсу да іх, заўжды былі прырытэтным аб'ектам вывучэння лінгвістаў. І гэта зусім невыпадкова. Іх этнагістарычнае і структурна-тэрытарыяльнае адзінства ў сукупнасці самых яркіх моўных асаблівасцей з'яўлялася вызначальнай прыкметай асобасці беларускага этнасу сярод іншых славянскіх супольнасцей. Яны не толькі выканалі галоўную ролю ў станаўленні і фарміраванні новай беларускай літаратурнай мовы як вышэйшай разнавіднасці агульнанацыянальнай мовы, але і заставаліся і застаюцца сёння асноўнай крыніцай яе паступальнага развіцця. Гэта месца і найперш іх канструктыўная роля, нягледзячы на ўсе неспрыяльныя акалічнасці ў характары развіцця сучаснай моўнай сітуацыі ў Беларусі, вынікі якой увасобіліся ў спецыфіцы разбуральных працэсаў у межах нацыянальнага дыялектнага ландшафту, будзе належыць ім і далей. У першую чаргу цэнтральнай дыялектнай зоне гаворак беларускай мовы як унікальнаму адрознаму ў межах усёй нацыянальнай дзяржаўнай прасторы лінгваствральнаму канструкту.

Яскравым доказам беспярэпыннасці ў цікавасці да гэтага асабліва прыцягальнага навуковага аб'екта даследавання з'яўляецца яшчэ адно мовазнаўчае выданне. У пачатку 2003 г. жыццё ўбачыла новая кніга - «Дыялекталогія беларускай мовы». Аўтарам яе стаў Аляксандр Антонавіч Крывіцкі, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАНБ. Нельга не прызнаць, што выданняў такога кшталту, зыходзячы хоць бы з прадмета даследавання, у айчынным мовазнаўстве наогул не было. Былі. Так, у другой палове XX ст. у якасці спецыяльных навучальных дапаможнікаў для студэнтаў ВНУ Э.Д. Блінавай і Е.С. Мяцельскай былі напісаны кнігі «Беларуская дыялекталогія» (2-е выд., 1980) і «Беларуская дыялекталогія. Практыкум» (1991), з'явілася таксама і сумесная праца калектыву аўтараў «Беларуская і руская дыялекталогія» (1992). Акрамя таго, як адно з уласна навуковых даследаванняў у комплексе прац, створаных па выніках абагульнення і інтэрпрэтацыі матэрыялаў «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» навукоўцамі Інстытута мовазнаўства, трэба адзначыць і акадэмічнае выданне «Нарысы па беларускай дыялекталогіі» (1964). І вось яшчэ адна публікацыя па дыялекталогіі з тым жа, па сутнасці, адрасным прызначэннем – дапаможнік студэнтам. Але толькі адрасатам і агульным зыходным аб'ектам вывучэння фактычна яднаюцца паміж сабой пералічаныя выданні. Паводле зместу, сваёй структуры ды і характару разумення дыялекталогіі як адной з традыцыйных дысцыплін філалагічнай адукацыі гэта зусім адрозныя публікацыі. Што найперш і адлюстроўваецца ў самой назве кнігі. Згодна з ёй, дыялекталогія не проста даведнік сістэматызаваных, навукова апрацаваных і ўпарадкаваных звестак пра гаворкі беларускай мовы. Аўтар распавядае пра дыялекталогію як асобную галіну навукі. Яе падобнай роляй яскрава і вытлумачваецца змест і структура выдання.




**А.Крывіцкі. Дыялекталогія беларускай мовы. Мн., 2003**

Дапаможнік «Дыялекталогія беларускай мовы» складаецца з «Уводзінаў», дзе раскрываюцца асноўныя паняцці дыялекталогіі як асобнай навукі ў спалучэнні з яе метадалагічным забеспячэннем, адзначаюцца асноўныя дыялекталагічныя крыніцы і літаратура па ёй, расказваецца пра методыку дыялекталагічных даследаванняў, нарэшце, пра спецыяльнае пісьмо – транскрыпцыю, – якое ўжываецца пры фіксацыі гаворкавых тэкстаў. Такім чынам, змест гэтай часткі навуковай працы можна вызначыць, па сутнасці, як пераважна традыцыйны ў дачыненні да пачатковага ўзроўню вывучэння галіны навукі. Тут даследчыкам даецца ўяўленне пра дыялекталогію як адметную навуковую сферу.

Але ёсць, як падаецца, у гэтым раздзеле два вызначальныя параграфы. Прынамсі, «Двухбаковасць структуры мясцовых гаворак» (с. 18–23) і «Асноўныя паняцці дыялекталогіі» (с. 24–27). Адметным паводле сваёй канцэптуальнасці і фундаментальнай важкасці варта лічыць, мабыць, першы з іх. Бо яскрава змест названага параграфа ў значнай меры прадвызначае наступную пабудову кнігі і яе паняційны апарат увогуле.

У зазначанай тэкставай частцы А.Крывіцкім вызначаецца ступень тоеснасці і адрознасці паміж такімі ўзаемаабумоўленымі паняццевымі адзінкамі, як мова і маўленне. Незвычайнасць у тым, што характар узаемаадносін гэтых паняццяў падаецца не шляхам традыцыйнага апісання праз канстатацыю складанасці ўзаемадачыненняў паміж імі, а праз аналіз іх складу лінгвальнымі сродкамі і асаблівасцей.

Такое наватарскае раскрыццё моўнай спецыфікі абранай карэляцыйнай пары дазволіла аўтару падвесці чытача да разумення сутнасці іншых, канцэптуальных для дыялекталогіі паняццяў. Найперш, да асэнсавання паняцця двухбаковасць структуры гаворак беларускай мовы. Двухбаковасць структуры гаворак выяўляецца як быццам у аднačасовым існаванні двух комплексаў розных па часе з'яўлення асаблівасцей. Адзін з гэтых комплексаў увасабляе адметнасці сваёй першапачатковай моўнай генетычнай асновы. Чым яскрава і абумоўліваецца этнагенетычны, ці ўласна дыялектны падзел і групоўка беларускіх гаворак.

Другі комплекс асаблівасцей – гэта асаблівасці маўленчага характару з рухомым складам сваіх адрознівальных сродкаў. Наяўнасць іх з'яўляецца сведчаннем і вынікам культурна-гістарычных сувязей беларускіх гаворак з іншымі сістэмамі рознай моўнай прыналежнасці. Дзякуючы комплексу такіх сукупных асаблівасцей гаворкі і адасабляюцца ў асобыя тэрытарыяльна-моўныя структуры – зональныя групы гаворак беларускай мовы.

У наступным параграфе «Уводзінаў», што мае назву «Асноўныя паняцці дыялекталогіі», А.А. Крывіцкім пераважна пашыраецца і паглыбляецца змест адзначаных паняццяў, а таксама ўводзяцца ва ўжытак новыя. Сярод іх цэласнага сістэматызаванага комплексу неабходна вылучыць два. Гэта паняцце беларускія гаворкі і паняцце гаворкі беларускай мовы. Здаецца, у беларускую мовазнаўчую навуку яны ўводзяцца наогул ці не ўпершыню. Паняцце беларускія гаворкі скарыстоўваецца пры характарыстыцы этнагістарычнага масіву беларускіх гаворак. Пры гэтым улічваецца таксама і тая іх пазадзяржаўная тэрытарыяльная частка, што ў адносінах да нацыянальнай мовы мае сёння статус дыялектнай этнагістарычнай моўнай перыферыі. Паняцце гаворкі беларускай мовы суадносіцца з той часткай іх этнагістарычнага масіву, што зараз знаходзіцца ў нацыянальна-дзяржаўных межах.

Такім чынам, склад паняційнага інструментарыя дыялекталогіі як асобнай мовазнаўчай навукі, прапанаваны ва «Уводзінах», дазваляе ў поўнай ступені «расчытаць» структуру надрукаванай кнігі і ўсвядоміць змест усіх яе раздзелаў.

Таму і натуральнай падаецца назва другога раздзела дапаможніка - «Беларускія гаворкі». Дадзены раздзел – гэта спроба асэнсавання станаўлення і развіцця дыялекталогіі беларускай мовы ў яе гістарычнай рэтраспекцыі. Адпаведна чаму А.А. Крывіцкім асвятляецца стан яе развіцця на розных этапах. Першы такі этап – этнаграфічны, ён у сваю чаргу складаецца з асобных віленскага і рускага перыядаў. Наступны вызначаецца як уласна дыялекталагічны. Аднак станаўленне і развіццё дыялекталогіі на ўласна дыялекталагічным этапе таксама было неаднародным. Частка яе гісторыі прайшла ў складзе рускай дыялекталогіі (адпаведна чаму перыяд называецца рускім). І толькі з 20-ых гадоў пачынаецца перыяд сапраўды нацыянальнага развіцця дыялекталогіі беларускай мовы. На гэты ж час і прыпадае яе станаўленне як асобнай і важнай галіны беларускага мовазнаўства.

Кожны з выдзеленых аўтарам этапаў у іх паасобных перыядах адпаведна знаходжанню беларускіх гаворак у межах этнагістарычнага пашырэння грунтоўна і падрабязна апісваецца. Тут расказваецца таксама пра здабыткі даследчыкаў, якія стваралі перадгісторыю айчыннай дыялекталогіі, займаючыся і моўным збіральніцтвам дыялектных скарбаў, і іх лексікаграфічным упарадкаваннем, і тэарэтычным асэнсаваннем, і спробай лінгвагеаграфічнага адлюстравання.

Уласна нацыянальны этап у развіцці гаворак беларускай мовы асвятляецца А.А.Крывіцкім у трэцім раздзеле кнігі. Па зразумелых канцэптуальных падставах ён называецца «Гаворкі беларускай мовы». У дадзенай частцы манаграфіі аўтарам, згодна з наяўнымі структурнымі дыялектнымі тыпамі гаворак і іх адпаведнымі тэрытарыяльнымі дыялектнымі групамі з характэрнымі для іх комплексамі рэгіянальных асаблівасцей даецца апісанне ўласна дыялектнага і занальнага дыялектнага ландшафту беларускай мовы. Грунтуецца такая характарыстыка выключна на выніках лінгвагеаграфічнага вывучэння нацыянальнай моўнай прасторы. Заканчвае раздзел не менш змястоўнае асэнсаванне набыткаў рэгіянальнай беларускай лексікаграфіі, апублікаваных у другой палове XX ст.

Нарэшце, чацвёрты, апошні раздзел кнігі «Дыялекталогія беларускай мовы» мае назву «Значэнне дыялекталогіі». Аднак у гэтай невялікай па аб'ёме частцы выдання не проста вызначаецца роля і месца традыцыйных мясцовых гаворак беларускай мовы ці то ў фарміраванні беларускага этнасу, ці то ў агульнанацыянальнай моўнай сістэме, ці то ў сістэме нацыянальнай моўнай асветы і адукацыі. Найперш тут адлюстроўваецца глыбокі роздум вельмі дасведчанага і навукоўца пра лёсавызначальны статус мясцовых гаворак у моватворчым нацыянальным працэсе наогул.

Гэтыя нататкі пра з'яўленне новай працы ў нацыянальнай лінгвістыцы, створанай у Інстытуце мовазнаўства НАНБ, на самай справе нельга разглядаць як рэцэнзію на аўтарскую манаграфію. Гэта найперш паведамленне пра выхад вельмі сур'ёзнага навуковага даследавання, якое вызначаюць глыбіннасць і аналітычнасць зместу, прадуманая ўпарадкаванасць паняційнага комплексу, абумоўленасць і сістэматызаванасць ўсіх асобных раздзелаў, так і ўсяго дапаможніка цалкам, арыгінальнасць падыходу да прадмета вывучэння. Што насамрэч невыпадкова і, як думаецца, натуральна.

Кніга створана аўтарытэтным беларускім дыялектолагам, глыбокім знаўцам прадмета свайго даследавання і невераго дна ўлюбёным у сваю працу чалавекам, – А.А.Крывіцкім. Таму яна – гэта індывідуальнае бачанне зместу і структуры, забяспечаных адпаведным паняццевым апаратам, такой навуковай галіны, як дыялекталогія беларускай нацыянальнай мовы. І прэзентуецца яна цікаўнаму чытачу не як спецыяльны дапаможнік па адпаведнай філалагічнай дысцыпліне, а як грунтоўны дыялекталагічны даведнік пра навуку аб народнай беларускай мове.

**В. КУРЦОВА**

## Навіны

## «БЯРОЗКІ» БОЛЬШ НЯ БУДЗЕ?

Галоўны рэдактар часопісу «Бярозка» вядомы дзіцячы пісьменьнік Уладзімер Ягоўдзік быў звольнены са сваёй пасады 2 сьнежня. Афіцыйная прычына - заканчэньне кантракту. Але, як адзначаюць калегі пісьменьніка, гэта адбылося з прычыны магчымага далучэньня «Бярозкі» да часопісу «Маладосць», які, нагадаю, знаходзіцца ў складзе гэтак званага літаратурнага голдынгу. Пра такую пэрспэктыву паведаміла ў лістападзе на калегіі Міністэрства інфармацыі намесьніца міністра Лілія Ананіч. Галоўная рэдактарка «Маладосці» Раіса Баравікова лічыць аб'яднаньне «Бярозкі» з «Маладосцю» выключна нерэальным: «Бярозка» - гэта каляровы часопіс для падлеткаў сярэдняга ўзросту. «Маладосць» - не каляровае, а чорна-белае выданьне».

Уладзімер Ягоўдзік кіраваў часопісам сем гадоў. Ягоны намесьнік Аляксандар Мароз вельмі высока ацэньвае ягоную працу на пасадзе галоўнага рэдактара: «Самы, можа, лепшы варыянт, што часопіс узначальваў такі вядомы пісьменьнік, як Уладзімер Ягоўдзік. Тут стварыўся цудоўны калектыў - і пісьменьнікі, і мастакі з сусьветнымі імёнамі. У нас мастацкія рэдактары - гэта Павал Татарнікаў і Ігар Гардзіёнак. Часопіс быў незаангажаваны. І яшчэ галоўнае - гэта творчасьць самых дзяцей, вершы, апавяданьні, таксама малюнкі дзіцячыя. Няма ж у нас дзіцячага мастацкага часопісу, мы ж і гэтую функцыю выконвалі. Сапраўды, гэта літаратурна-мастацкі часопіс, і ён адзіны. Уладзімер Іванавіч шмат як аўтар і як рэдактар уклаў у яго. Апошнія два гады зь фінансамі стала значна цяжэй, і мы па тры нумары здвойвалі».

У наступным годзе «Бярозка» будзе адзначаць 80-я ўгодкі ад выхаду першага нумару. Але цяперашнія супрацоўнікі часопісу непакояцца, што ім ня будзе чаго сьвяткаваць, бо калі «Бярозку» зробяць укладкай у часопіс «Маладосць», то адзіны беларускамоўны часопіс для падлеткаў проста зьнікне.

Спробы атрымаць камэнтар з гэтай нагоды ад кіраўнічкі літаратурна-выдавецкай установы «Літаратура і мастацтва» Таісы Бондар чарговы раз аказаліся бесласьпяховымі.

**Ганна СОУСЬ**
*Радыё Свабода*

## Пад забаронай для пракату

На экранах Беларусі, у тым ліку і па ўсіх нацыянальных тэлеканалах, забаронена дэманстрацыя 49 мастацкіх фільмаў, у якіх надта багата сцэнаў насілля, жорсткасці і празмернай эротыкі. Пра гэта паведаміў інфармацыйным агенцтвам начальнік дзяржаўнага рэгістра кінавідэафільмаў і кінавідэапраграмаў Міністэрства культуры краіны Ю.Цвяткоў. Па яго словах, рашэнне аб забароне паказу такіх фільмаў прынята рэспубліканскай экспертнай радай, у склад якой уваходзяць каля 30 чалавек. Гэта спецыялісты аховы здароўя, аўтарытэтныя мастацтвазнаўцы, кіназнаўцы, прадстаўнікі рэлігійных канфесій. Па ацэнках экспертаў, такія фільмы вельмі адмоўна ўплываюць на здароўе, эмацыйны стан людзей і могуць прывесці да сур'ёзных псіхічных расстройстваў.

На вялікі жаль, спіс гэтых шкодных 49 фільмаў застаецца нераскрыты. Невядома, ці патрапілі ў гэты лік знакамітыя забойствамі «Брыгада» і «Антыкілер», «Брат-2» ды іншыя падобныя расейскай вытворчасці, якія па шкодным уплыве даюць фору галівудскай прадукцыі. Як ні дзіўна, але на нашы экраны выходзіць «Антыкілер-2», у якім насілля хопіць на добры дзесятак фільмаў.

# Euskal Herria

## Краіна Баскаў

У Іспаніі апроч іспанскай афіцыйна існуюць дзве іншыя мовы – каталонская і бакская. Іспанская і каталонская адносяцца да раманскай групы, паходжанне мовы баскаў аточана таямніцай.

Баскі жывуць у невялікім рэгіёне, які ляжыць па абодвы бакі французска-іспанскай мяжы, ад мора на захадзе да Пірынеяў на ўсходзе. Гэты рэгіён уключае сем гістарычных абласцей і называецца *Euskal Herria*. Ніхто не ведае дакладна, адкуль прыйшлі баскі. Некаторыя даследнікі лічаць, што яны жывуць у гэтым рэгіёне з тых часоў, як краманьёнцы ўпершыню патрапілі ў Еўропу. Існуюць і дзіўнаватыя тэорыі, якія бачаць у басках нашчадкаў ацалелых Атлантаў. Рымскія аўтары ўзгадвалі ў сваіх творах аб плямёнах басконцаў. Падобна, што гэтыя самыя плямёны пазней упарта супраціўляліся ўсім чужынцам: візіготам, нарманам і маўрам і такім чынам дачакалі нашага часу і захавалі сваю унікальную мову.

Гісторыкі і філолагі ўжо два стагоддзі б'юцца над тайнай генеалогіі мовы баскаў. Нехта знаходзіць падабенства з каўказскімі мовамі, некаторыя бачаць намёкі на сваяцтва з афра-азіяцкай сям'ёй моваў. Але ўсе гэтыя прывязкі настолькі слабыя і штучныя, што лінгвісты ўсяго свету дамовіліся лічыць мову баскаў выключнай з'явай.

У аўтаномнай Краіне Баскаў на роднай мове свабодна гавораць 600.000 чалавек і яшчэ 400.000 вывучалі сваю мову, але не лічацца, што яны валодаюць ёй свабодна. Маецца таксама 15 тысяч носьбітаў мовы на тэрыторыі пражывання баскаў у Францыі. Яшчэ 120 тысяч баскаў жывуць у Лацінскай Амерыцы і ў ЗША. Так што разам баскаў каля 1мільёна 200 тысяч.

У мове баскаў са старажытнасці існавала і дасюль падтрымліваецца багатая традыцыя вуснага вершаскладання, гэтак званыя *берцапарыі* і *пастаралі*. Па сённяшні дзень у Краіне Баскаў рэгулярна праводзяцца народныя спаборніцтвы па пастаралях. Шматгалосыя спевы горцаў заваpожваюць слухачоў гэтак жа, як і тысячу гадоў назад. Першыя песні, пісаныя на *эускара* (так называецца ў баскаў іх мова), сустракаюцца ўжо ў творах 10 стагоддзя. Першая кніга, надрукаваная на эускара, датуецца 1545 годам. Яна называецца «Мовы старажытных баскаў».

З канца 19 стагоддзя агульнапрыняты падзел мовы баскаў на сем дыялектаў і некалькі субдыялектаў. Такая дыялектная разнастайнасць насельніцтва на адносна невялікай плошчы (усяго каля 10 тысяч кв. кіламетраў) тлумачыцца гістарычнай традыцыяй кампактнага пражывання сельскіх абшчынаў у горнай краіне. З мэтай стварэння адзінай уніфікаванай мовы ў 1918 годзе была ўсталявана Акадэмія мовы баскаў. Вынікам працы акадэміі з'явілася уніфікаваная літаратурная мова *Euskara Batua*, якая на сённяшні дзень самая распаўсюджаная ў Басконіі. На ёй здзяйсняюцца ўсе віды камунікацыяў, уключаючы газеты, радыё, тэлебачанне і інтэрнэт. Апроч гэтага, на ёй, побач з дзяржаўнай (кастыльскай), друкуецца літаратура і вядзецца навучанне ў сярэдняй школе.



У часы грамадзянскай вайны ў Іспаніі і дыктатуры генерала Франко галоўныя гарады Краіны Баскаў Більбао і Герніка ляжалі ў руінах пасля бамбавання, а ўсялякае, нават вуснае ўжыванне эускара, было забаронена. Праз паўстагоддзя дыктатура рухнула, а ўзамен іспанскае грамадства атрымала Рух за свабоду Басконіі і яго радыкальнае крыло (ЭТА). Баскі ніколі не пераставалі думаць аб сапраўднай незалежнасці і змагацца за яе. Менавіта таму Басконія ў гады грамадзянскай вайны стала эпіцэнтрам найбольш актыўнага супраціву франкістам і арэнай найбольш крывапралітных баёў. Але нават пасля паражэння іспанскіх рэспубліканцаў супраціў у Краіне Баскаў працягваўся. У 1959 годзе была створана новая арганізацыя супраціўлення фашысцкаму рэжыму – *Euskadi Ta Askatasuna (ETA)*, якая паступова перарасла з невялікай групы студэнтаў у магутную падпольную армію і стала авангардам вызвольнага руху. У 1960-70 гадах ЭТА аказалася ледзьве не адзінай рэальнай апазіцыяй франкісцкай дыктатуры, атрымаўшы значную падтрымку ў самых розных слаях іспанскага грамадства. Папулярнасць ЭТА рэзка ўзрасла пасля таго, як у 1968 годзе яе байцы забілі камісара тайнай паліцыі Мелтана Манцан'яса, які шырока практыкаваў катаванні да ўдзельнікаў апазіцыйных груп, калі яны траплялі ў рукі службы бяспекі.

Тым не менш, пасля смерці Франко і вяртання Іспаніі да дэмакратыі напрыканцы 1970 гадоў падтрымка ЭТА пайшла на спад: шмат хто ў Іспаніі вырашыў, што настаў момант, калі ЭТА ды іншыя групы радыкальнага супраціву проста абавязаны скласці зброю і дзейнічаць у рамках нармальнага палітычнага працэсу. Баскі палічылі гэта за несправядлівасць, улічваючы іхнія ахвяры, і не захацелі развітацца са сваёй марай аб уласнай вольнай краіне.

Мэта ў баскаў адна – стварэнне незалежнай баскскай дзяржавы. Хоць Басконія ў якасці аўтаномнага рэгіёна карыстаецца вельмі шырокімі правамі. Напрыклад, насельніцтва Краіны Баскаў выбірае ўласнага прэзідэнта і свой парламент, у рэгіёне дзейнічае ўласная сістэма падаткаў, маюцца ўласныя паліцэйскія сілы. Улады рэгіёна самі здзяйсняюць кантроль за сітуацыяй у сферы адукацыі, а выкладанне ў школе вядзецца на баскскай мове. Большыня радыёстанцый і тэлеканалаў, якія працуюць у краі, таксама вядуць свае перадачы на баскскай мове. Усе дарожныя ўказальнікі і ўсе шыльды напісаны на мове баскаў. Здавалася б, чаго яшчэ жадаць баскам? Тым не менш яны жадаюць сваёй незалежнай дзяржавы. У іх краіне адчуваецца, што насельніцтва жыве ў замкнёнай прасторы, цэнтрам якой з'яўляецца ЭТА. У выступах палітычных лідэраў і тэлекаментатараў пастаянна ўжываецца лексіка вайны. На сценах дамоў у гарадах Басконіі шмат плакатаў у гонар байцоў ЭТА. Практычна ў кожным завулку звешваюцца з балконаў транспаранты ў падтрымку сяброў ЭТА, якія знаходзяцца ў зняволенні. З першых дзён жыцця маладых баскаў іх навучаюць, што іх народ пакутуе пад гнётам жорсткага ворага і што самая галоўная мэта іх жыцця – гэта самаахвяраванне дзеля вызвалення нацыі. Таму на змену палеглым барацьбітам прыходзіць новае пакаленне змагароў за самастойнасць Краіны Баскаў.

У верасні 1998 года ЭТА абвясціла, што яна прыпыняе баявыя аперацыі на неакрэслены тэрмін і пачынае перамовы з урадам Іспаніі. Вынікам стала тое, што на працягу 14 месяцаў у гэтай частцы Пірэнейскага паўвострава не адбылося ніводнага тэрарыстычнага акта. На жаль, перамовы былі сарваныя, калі новы ўрад Іспаніі, у якім пераважалі правыя, арыштаваў 66 чалавек па абвінавачванні ў супрацоўніцтве з ЭТА, уключна і аднаго з удзельнікаў перамоваў. Пасля гэтых арыштаў у Басконіі зноў загучалі стрэлы і выбухі бомбаў.

У лабірынтах вуліц гарадоў і пасёлкаў Басконіі ў ЭТА падрастае надзейны рэзерв – чальцы маладзёвых груповак, якія ўчыняюць сутычкі з паліцыяй, падпальваюць аўтамашыны і нападаюць на дамы супрацоўнікаў баскскай паліцыі Узрост гэтых маладых людзей вагаецца ад 16 да 25 гадоў, і не выключана, што большыня з іх у будучыні стане паўнапраўнымі байцамі ЭТА.

Цяпер у розных турмах Іспаніі і Францыі адбываюць пакаранне болей за 500 чалавек, асуджаных за ўдзел у дзейнасці ЭТА. На думку шматлікіх назіральнікаў, раздзеленасць зняволеных – гэта палітычная праблема, якую ўрад Іспаніі не жадае вырашаць. У выніку сваякі вязняў, прычым нават тыя з іх, хто раней і не думаў пра ўдзел у змаганні за незалежнасць, паступова пачынаюць уцягвацца ў сепаратысцкі рух. Справа ў тым, што вельмі часта баскскія вязні адбываюць тэрмін свайго пакарання за сотні кіламетраў ад родных мясцін, сем'ям прыходзіцца выдаткоўваць вялізныя грошы проста для таго, каб хоць раз у некалькі месяцаў пабачыць тых, хто ім дарагі. А далей усё ідзе знаёмай каляінай: сваякі пачынаюць пісаць лісты ў розныя інстанцыі з просьбай перавесці роднага ім чалавека бліжэй да радзімы, потым, атрымаўшы серыю бяздушных адмоваў, спрабуюць звяртацца ў міжнародныя праваабарончыя арганізацыі, потым становяцца аўтарамі адкрытых лістоў да сусветнай грамадскасці з заклікам звярнуць увагу на праблему, потым пачынаюць удзельнічаць у дэманстрацыях і мітынгах. Потым у шэрагах ЭТА з'яўляецца новы баец, сувязны ці гаспадар канспіратыўнай кватэры. Потым выбухае начынены ўзрыўчаткай аўтамабіль ці нейкі кат падае на тратуар з куляй у сэрцы. І так будзе датуль, пакуль баскаў будуць лічыць за сепаратыстаў, абавязаных з чужой волі жыць у аўтаномнай падпарадкаванасці, каб не аддаваць ім незалежнасць.

**Ільля ВЯРЭДЗІЧ**



**«Новы Час»**
**абвяшчае конкурс сярод чытачоў**
**«Беларусь у гістарычным працэсе»**

***Удзельнікам конкурсу трэба адказаць на наступныя пытанні:***

**1. Якую падзею з беларускай гісторыі Вы лічыце значнай для нашай краіны**
**а) у даўнія часы, б) у навейшыя часы**
**2. Якую з вядомых Вам гістарычных асобаў Вы ўзялі б за ідэал ці параілі б узяць за ідэал вашым дзецям?**
**3. Якую мясціну на Беларусі Вы лічыце святой, вартай усенароднай павагі?**
**4. Ці ёсць у Вас любімы помнік даўніны (замак, палац, парк, возера і г.д.) у нашай краіне, куды хацелася б час ад часу прыязджаць?**
**5. Што, на вашу думку, варта рабіць, каб Беларусь не загінула ва ўмовах глабалізацыі Хто можа гэта рабіць – толькі ўлады ці кожны грамадзянін?**

**Пераможцаў чакаюць прызы: фотаапарат, C/D з папулярнай беларускай музыкай, падарункавыя выданні, падпіска на «Новы Час» і інш.**

**Адказы на пытанні дасылайце на наш эл. адрас: nchas@tbm.org.by або паштовы: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13, з паметай – «на конкурс» да 20 снежня 2003 г.**

# Зважай! Злодзей не спіць!

***Толькі ў снежні ўзбуджана 58 крымінальных справаў за фальшывыя грошы***



Часы, калі вырабляліся клішэ ці фальшывыя грошы малявaліся, прайшлі. Цяпер цяжкую і творчую штучную працу змянілі новыя тэхналогіі.

Эксперты-крыміналісты вылучаюць два віды падробак. Поўная падробка, якую адносяць да класу «супер»: банкноты вырабляюцца на паліграфічным абсталяванні амаль па сапраўднай тэхналогіі. На такіх банкнотах ёсць вельмі нязначныя дэфекты, якія могуць адшукаць толькі эксперты-крыміналісты ці спецыялісты з банкаўскіх установаў. На сціплейшым паліграфічным абсталяванні вырабляюцца фальшыўкі не такой высокай якасці. Таксама выкарыстоўваецца рэпраграфія (ксеракс, лазерны, кропельна-струйны прынтэры). Грошы, падробленыя такім спосабам, значна адрозніваюцца ад падробак класу «супер», яны разлічаны на поўных «лохаў»

Пры падробцы змяняецца вартасць банкноты. Улюбёная валюта фальшываманетчыкаў - даляры. Найчасцей на банкноту вартасцю 5 даляраў прыклейваюць нулік і атрымліваецца 50. Другі спосаб больш працаёмкі: здымаецца ксеракопія з сапраўднай 50-даляравай банкноты і на 5-даляравую прыклейваюцца партрэт, намінал і надпіс. Пра сапраўдную вартасць кажа толькі надпіс five. Хоць у нашай краіне даляры распаўсюджаны не менш, чым беларускія грошы, але людзі лянуюцца вывучыць партрэты амерыканскіх прэзідэнтаў і далёка не ўсе ведаюць англійскую мову, каб адрозніць надпіс five - 5 і fifty - 50. Падробкі класа «супер», на думку спецыялістаў, прыбываюць у нашу краіну з Польшчы і Літвы. Таму сапраўдныя гаспадары фальшывых грошай недасягальны для нашых праваахоўных органаў. Затое ў іх сеткі нярэдка трапляюць збытчыкі фальшывак. Найчасцей гэта студэнты. Вядома, на стыпендыю пражыць немагчыма, вось моладзь і знаходзіць сабе спосаб зарабіць. Толькі пасля такога заробку шмат часу прыходзіцца бавіць у месцах пазбаўлення волі.

Беларускія грошы падрабляюць звычайна на кропельна-струйным прынтэры. Гэты занятак увогуле асвоілі школьнікі, якім бацькі купілі добрую тэхніку. У фальшывых беларускіх рублёў колер банкноты святлейшы і не мае патрэбнай яркасці. У такой банкноты не можа быць вадзяных знакаў, але асобныя ўмельцы малююць лыжніка. Таксама на падробках металічная лінія недастаткова выразная. Адна з галоўных прыкмет падробкі 5-тысячнай беларускай банкноты - толькі з-пад ксеракса яна блішчыць, а пад уздзеяннем вады фарбы расплываюцца.

У апошні час, як зазначаюць супрацоўнікі міліцыі, шмат з'явілася падробных еўра. Тлумачыцца гэта найперш тым, што насельніцтва яшчэ мала знаёмае з гэтай валютай. У Мінску затрымалі непрацуючых жыхароў Пінска, якія куплялі па аб'явах дарагую тэхніку і разлічваліся фальшывымі банкнотамі вартасцю ў 200 еўра. Следства высветліла, што толькі ў Мінску гэтыя маладыя людзі збылі 14 купюр. Купюры вельмі высокай якасці: на іх ёсць вадзяныя знакі і металічная нітка. Толькі якасць паперы неадпаведная. Але ўбачыць гэта можа толькі спрактыкаванае вока эксперта.

У Брэсце ў рукі падлеткаў трапіла 30 падробных банкнот еўрапейскай валюты, кожная вартасцю 100 еўра.

Вялікае распаўсюджанне мае і самая экзатычная падробка еўра. На грошы афрыканскай Рэспублікі Сурынам, упрыгожаныя кветкамі ды жывёламі, наклейваюцца атрыбуты еўра. Ужо некалькі грамадзян, якія прадалі дарагія рэчы па аб'явах, прыйшлі ў міліцыю з просьбай: злавіце махляроў, вярніце грошы. Але міліцыя можа толькі злавіць фальшываманетчыкаў, а пакрыццё стратаў залежыць ад іх заможнасці, у чым яны не прызнаюцца.

Шаноўнае спадарства, **не прадавайце дарагія рэчы праз рэкламныя абвесткі**. А калі ўжо ў вас няма іншага выйсця, дык трэба праверыць сапраўднасць грошай перад тым, як прыняць іх ад пакупніка.

Другое правіла: **не абменьвайце валюту з рук. Калі гэта заўважаць міліцыянты, то складуць на вас пратакол і канфіскуюць грошы. А калі не заўважаць, то вы можаце стаць ахвярай валютных махляроў ці фальшываманетчыкаў**. У гэтым выпадку вы можаце смела заяўляць у міліцыю, бо ў такім разе дзеянне першага дэкрэта не распаўсюджваецца на ахвяру махляроў. Але невядома, ці іх зловяць, а вось без грошай застанецеся. Памятайце: у перадnавагоднія тыдні махляры развіваюць шалёную актыўнасць, гэтаму спрыяе агульны настрой - усе нешта купляюць ці прадаюць, не дайце сябе падмануць, каб не сустракаць Новы год у слязах і смутку.

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

# Беларускае бюро Інтэрпола

**10 снежня спаўнілася 10 гадоў з дня ўтварэння ў Беларусі Нацыянальнага цэнтральнага бюро (НЦБ) Інтэрпола. Гэта стала нагодай для сустрэчы з журналістамі начальніка НЦБ Інтэрпола Уладзіміра Левітанава.**

У.Левітанаў адзначыў, што за 10 гадоў існавання беларускае НЦБ Інтэрпола дасягнула значных поспехаў у забеспячэнні практычнага ўзаемадзеяння праваахоўных органаў нашай краіны з замежнымі калегамі з крымінальнай паліцыі. Прыкладам, за гэты час з аб'яўленых у міжнародны вышук каля 600 нашых суграмадзян былі знойдзены амаль 250, сярод якіх больш за 50 тых, каго называлі «зніклымі без вестак», і каля 200 сапраўдных злачынцаў. Зараз у міжнародным вышуку значацца больш за 300 грамадзян Рэспублікі Беларусь.

Беларускае НЦБ Інтэрпола таксама аказвае дапамогу праваахоўным органам іншых дзяржаваў у пошуку людзей, якія прапалі без вестак ці падазраюцца ва ўчыненні злачынстваў. Усяго за час існавання НЦБ на тэрыторыі нашай краіны былі аб'яўлены ў міжнародны вышук больш як 3 тысячы 200 замежнікаў, у ліку якіх 2 тысячы 800 злачынцаў і недзе каля 350 зніклых без вестак. Нашым праваахоўным органам удалося ўстанавіць у Беларусі месцазнаходжанне 184 замежных грамадзян, аб'яўленых у вышук.

Яшчэ адна сфера дзейнасці Нацыянальнага цэнтральнага бюро Інтэрпола датычыць пошуку скрадзеных за мяжой аўтамашын і дастаўленых крымінальнымі структурамі ў нашу краіну. Толькі ў гэтым годзе спецыялісты Нацыянальнага цэнтральнага бюро па просьбе замежных паліцэйскіх упраўленняў праверылі болей за 1.500 адзінак аўтатранспарту. У выніку ўдалося знайсці больш за 300 аўтамабіляў, скрадзеных у розных еўрапейскіх краінах. Апроч таго, з дапамогай НЦБ Інтэрпола было ўстаноўлена, дзе знаходзяцца 8 аўтамашын, скрадзеных крымінальнікамі ў беларускіх грамадзянаў.

Начальнік НЦБ Інтэрпола У.Левітанаў паведаміў, што за членства ў Міжнароднай арганізацыі крымінальнай паліцыі Беларусь плаціла 60 тысяч даляраў на год, але зараз плата істотна паменшылася – сума штогадовага ўзносу складае цяпер каля 10 тысяч еўра. Гэтыя выдаткі НЦБ Інтэрпола акупляе цалкам, бо стаіць на абароне эканамічных інтарэсаў Беларусі. Нацыянальнае цэнтральнае бюро Інтэрпола разам з іншымі праваахоўнымі органамі за 10 гадоў прадухіліла нанясенне эканамічнай шкоды беларускай дзяржаве на суму больш за 1 мільярд даляраў і звыш за 4 мільярды беларускіх рублёў.

**Павел БАРАНОЎСКІ**

## Беларускі вытворца

# Купляй сваё і не сапсуеш здароўе

Дзіцячае харчаванне для немаўлят нямецкай фірмы «Хумана» не тоіць у сабе небяспекі для здароўя беларускіх дзетак. Да такой высновы прыйшлі спецыялісты Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра гігіены пасля грунтоўнай праверкі гэтага прадукту.

Нагадаем, што прычынай трывогі і неабходнасці правесці такую экспертызу сталі некалькі смерцяў нованароджаных у Ізраілі, якіх кармілі сумессю гэтай маркі. Ізраільскія малыя памерлі з-за нястачы ў ёй вітаміну В1. Калі стала вядома пра гэтыя няшчасныя выпадкі, гандаль «Хуманай» быў прыпынены ў многіх краінах, у тым ліку і ў Беларусі, для праверкі прадаванага харчавання адмыслоўцамі.

Паводле вынікаў экспертызы нашага Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра гігіены, безмалочныя сумесі на аснове соі «ЭссЭль» и «ЭссЭльБрЭй» фірмы «Хумана можна спажываць немаўлятам без аніякай рызыкі іхняму здароўю. Колькасць вітамінаў А, В1, В2 і Е, а таксама доля ўтрымання ёду і селену цалкам адпавядае інгрэдыентным звесткам на ўпакоўцы «Хуманы». Забарона на продаж гэтых сумесяў у беларускіх крамах зняты.

Але, як бы тое ні было, гэты інцыдэнт хутчэй за ўсё моцна ўдарыць па рэпутацыі нямецкай фірмы і па даверы да яе прадукцыі з боку бацькоў. Відаць, і многія беларускія мамы і таты, што раней карысталіся «Хуманай», стануць аддаваць перавагу іншым сумесям. У тым ліку і айчынным - прадукцыі ваўкавыскага прадпрыемства «Беллакт».

Гэтая гісторыя з «Хуманай» мела досыць значны рэзананс у беларускім грамадстве, асабліва ў тых сем'ях, дзе ёсць немаўляты. Красамоўны прыклад: гуляем з жонкай і з малой па вуліцы, і тут раптам нейкі мінак падыходзіць да нас і ўстрывожана-добразычлівым голасам кажа: «Не купляйце ж «Хуману», бо праз яе, па тэлевізары перадавалі, трое дзяцей загінулі ў Ізраілі!»

У тым ліку маючы на ўвазе гісторыю з гэтым дзіцячым харчаваннем, у часе нарады на мінулым тыдні па пытаннях сацыяльна-эканамічных паказнікаў прэзідэнт Беларусі заявіў, як паведамляе ягоная прэс-служба, аб неабходнасці надаваць прыярытэтную ўвагу вытворчасці айчынных тавараў народнага спажывання і прыняць захады па падвышэнні іхняй якасці. Аляксандр Лукашэнка лічыць заслугай той факт, што наша краіна не пагналася за моднымі, але не заўсёды карыснымі для здароўя чалавека і сумнеўнымі тэхналогіямі, асабліва што тычыцца прадуктаў харчавання. Тым часам неактыўныя прыклады, у тым ліку з чалавечымі ахвярамі, апошнім часам усё часцей з'яўляюцца за мяжой. Паводле словаў Лукашэнкі, «нас уратаваў наш кансерватызм».

На ягоную думку, нягледзячы на тое, што беларускія прадукты, бывае, саступаюць замежным аналагам у прывабнасці і кідкасці ўпакоўкі, яны натуральныя і ў бальшыні сваёй не ўтрымліваюць генетычна мадыфікаваных складнікаў. Выснова: трэба абараняць свой рынак і айчынных вытворцаў, бо «тавары народнага спажывання – пытанні і валюты, і бяспекі, і здароўя нашага насельніцтва».

Трэба сказаць, што беларускія ўлады не толькі гавораць, але ўжо і прымаюць канкрэтныя захады ў гэтым кірунку. Месяц таму ўрад выдаў пастанову, згодна з якой на прылаўках беларускіх крамаў мусіць ляжаць як мінімум 70 адсоткаў менавіта беларускіх тавараў. Гэта называецца спрыяннем айчынным вытворцам.

Яшчэ ўвесну беларускі прэзідэнт даў ураду распараджэнне распрацаваць дакумент, паводле якога ў нашай краіне ўводзіліся б нарматывы долі тавараў беларускіх вытворцаў у рознічным гандлі, а таксама ўстанаўлівалася б адказнасць за набыццё імпартовай прадукцыі ў тым выпадку, калі аналагічныя тавары, таннейшыя і болей якасныя, вырабляюцца ў самой Беларусі. Такім чынам, запаўненне болей як дзвюх трацінаў прылаўкаў беларускімі таварамі – гэта ажыццяўленне першай часткі гэтага ўказання. Трэба адзначыць, у 1997 годзе ў Беларусі ўжо была прынятая праграма імпартазамяшчэння. У тым ліку з устанаўленнем пэўных квот для гандлю. Аднак з гэтага нічога не атрымалася. Калі можна было набыць танны і якасны тавар з небеларускім штрых-кодам, нашыя суайчыннікі аддавалі перавагу менавіта яму, забываючыся на патрыятызм і ігнаруючы лозунг «Купляй беларускае!» Таму абмежаванні для крамаў былі знятыя. І вось новая спроба.

Эканамісты выказваюць сумнеў, што яна будзе ўдалай. У прынцыпе, абарона свайго вытворцы – натуральны клопат любой дзяржавы. Гэтак робіцца ва ўсім свеце. Папулярызуюць лозунг «Купляйце айчыннае» і ўводзяць квоты на імпарт усе краіны. Вось толькі з-за закрытасці беларускай эканомікі ў яе патрапляе надта мала інвестыцыяў, а без іх на састарэлым абсталяванні вырабляць канкурэнтаздольныя тавары складана. А вось зразумець беларускія ўлады досыць лёгка. Бо, паводле дадзеных Міністэрства статыстыкі і аналізу, запасы гатовай прадукцыі на складах беларускіх прадпрыемстваў складаюць каля 70 адсоткаў ад сярэднемесячнага аб'ёму вытворчасці. Трэба ж гэта кудысьці дзяваць!

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Дзяржаўны дзеяч

***Язэп Лёсік шчыра служыў народу і Айчыне, за што і быў зьнішчаны ненавіснікамі Беларусі***

**Язэп ЛЁСІК**

## Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы

Нарадзілася беларуская дзяржаўнасьць, нарадзілася беларуская школа. Зьявілася пільная патрэба даць назовы й выражэньне тым новым культурна-нацыянальным формам жыцьця, якіх ня было або якія былі, але даўно забыліся. Трэба вытвараць новыя словы, новыя фразэолёгічныя ды сынтаксычныя звароты.

Да гэтае работы наша інтэлігэнцыя выступіла з псыхолёгіяй расейскае мовы, з расейскім думаньнем, з расейскім, а часам і з польскім спосабам выкладаньня сваіх думак на пісьме. Захаваўшы поўны запас незабытых беларускіх слоў, нашая інтэлігэнцыя старалася выражаць свае думкі гэтымі словамі, але, навучаная школай пісаць парасейску, яна несьвядома для сябе, пры незнаёмстве з сынтаксычнымі фактамі беларускае мовы, злучала беларускія словы ў чужыя формы, паводле расейскага ці польскага сынтаксу. З гэтае прычыны сучасная беларуская-літаратурная мова ўвабрала ў сябе шмат неўласьцівых беларускай мове сынтаксычных і фразэолёгічных зваротаў.

Пісаць па-беларуску мы ня вучыліся, - тымчасам, гаварыць у тэй ці іншай мове і выкладаць свае думкі ў гэтай мове на пісьме - гэта далёка не адно й тое. Ня вучыўшыся, ня кожны патрапіць дакладна выславіцца на пісьме. Наша сялянства добра гаворыць пабеларуску, але граматны селянін не напіша пісьма пабеларуску. Гаварыць - гаворыць пабеларуску, а пісаць будзе парасейску, як навучыла яго школа. Гэтага, здаецца, зусім простага факту не разумеюць людзі падчас з высокай школьнай кваліфікацыяй...

Галоўная сіла не ў паасобных запазычаных словах: яны зараз-жа абеларушваюцца (спажываюцца) і мала адбіваюцца на духу мовы, як мала адбіваюцца на нашай беларускай прыродзе прывозныя продукты: газа, соль, жалеза, і т.далей. Дух мовы - гэта яе сынтакс, яе фразэолёгія, яе ўласьцівы спосаб выражэньня. Сіла тут не ў паасобных словах, а ў тых сынтаксычных формах, у якія мы злучаем словы для выражэньня таго, што нам трэба выказаць. Пераймаючы чужыя сынтаксычныя звароты, мы надаём нашай літаратурнай мове неўласьцівага беларускай мове характару і тым абарачаем яе ў нейкі ня існуючы дыялект, або ў карыкатуру. Наша кніжная мова, мова школьных падручнікаў, популярных народных кніг і асабліва мова штадзённых газэт, агулам кажучы, мала падобна да сапраўднай жывой беларускай, або крывічанскай ці крывіцкай, мовы ды прыпадобнілася да адзежы з чужога пляча. ..

Цьвёрда ўстаноўленай, у шырокім значэньні, беларускае літаратурнае мовы яшчэ няма, і гэтая неўстаноўленасьць нашае літаратурнае мовы становіцца нам у прыгодзе тым, што дае шырокія магчымасьці ды пазваляе перш-на-перш стаць на народны, дыялектычны грунт і ў сваім разьвіцьці пайсьці за разьвіцьцём жывое разгаворнае мовы. Іначай кажучы, наша літаратурная мова яшчэ мае поўную магчымасьць стаць такою мовай, якою загаварыў-бы сам народ, дайшоўшы адпаведнай ступені культурнага разьвіцьця.

Нямецкая літаратурная мова вельмі разьвітая, а тымчасам немцы, не зважаючы на сваю багата разьвітую літаратурную мову, пастаянна зварачаюцца да народных гутарак (мясцовых дыялектаў), каб асьвяжыцца, каб мець пастаянную сувязь з народнай моўнай крыніцай. Немцы разумеюць, што літаратурнай мове йдзе на карысьць як існаваньне дыялектаў (паасобных народных гутарак), так і пастаянная сувязь з імі, інача літаратурнай мове пагражае небясьпека амярцьвецьць. Жыцьцё й сьвежасьць літаратурнае мовы можна захаваць толькі ў тым выпадку, калі нязьменна трымацца народных крыніц, народных формаў мовы ў тым іх відзе, як яны (формы) жывуць і разьвіваюцца ў паасобных народных гутарках.

Як-жа нам зблізіць нашу літаратурную мову з мовай народнай? Як захаваць яе дух, яе асаблівасьці, - як навучыцца пабеларуску думаць, пісаць, гаварыць ды ня зьбівацца на чужое?

Рада тут можа быць толькі такая. Хто ня мае магчымасьці вучыцца ў самога народу, той павінен уважна чытаць народную вусную творчасьць у форме песень, казак, загадак, прыказак, дзе мова шліфавалася соткі год, а чытаючы, старанна адзначаць усё асаблівае, цікавае, беларускае - свае словы, звароты, сынтаксычныя формы. А потым трэба ведаць граматыку мовы, як школьную, так і навуковую, якая навукова знаёміць з фактамі мовы. Школьная граматыка знаёміць нас з агульнапрынятымі фактамі, а навуковая граматыка высьвятляе ўсе асаблівасьці мовы ў іх гістарычным разьвіцьці... Гэтае чуцьцё асаблівасьцяй свае роднае мовы становіцца ў вялікай прыгодзе тады, калі думка, шырэючы ды йдучы ў глыб, шукае новых зваротаў у мове, калі трэба знайсьці сувязь паміж матар'яльным і разумовым (конкрэтным і абстрактным) значэньнем паасобных слоў і цэлых моўных зваротаў.

Вытварэньне літаратурнае мовы шмат і шмат залежыць ад суб'ектывізму аўтораў-пісьменьнікаў і поэтаў. Датрымліваючы асаблівасьць і дух свае народнае мовы, кожны аўтор крышталізуе, шліфуе, - словам, стылізуе, вырабляе народную мову, мову дыялектаў на ўзор таго, як гармонізуюцца народныя песьні. Гэта й ёсьць тое, што становіць лінгвістычны, моўны густ таго ці іншага аўтора, або яго чуцьцё мовы. А літаратурная мова - гата стылізацыя, або гармонізацыя народных гутарак, - найбольш пашыраных, характэрных, тыповых фактаў гэтых гутарак.

Літаратар, пісьменьнік, стылізуючы народную мову, мусіць заўсёды мець на ўвазе ды ня спускаць з вока таго, ці пашыраны той ці іншы факт мовы ў шырокіх народных масах, каб не заблудзіць у паветалізмах, у малавядомых фактах. Бо толькі тая песьня варта гармонізацыі і прыдзецца да густу шырокім колам грамадзянства, якая пашырана ў народзе ды адбівае пачуваньні шырокіх мас. Песьні сьцісла мясцовыя, невядомыя або мала вядомыя грамадзянству, нават пры сама удалай гармонізацыі, ня зробяць адпаведнага ўражаньня, не захопяць публіку і ня стануць агульным набыткам. Гэтак і моўны факт, становячы сабою вузкі паветалізм, нават трапна стылізованы, заўсёды рызыкуе забыцца, не прышчапіцца і не абернецца ў літаратурны факт, каб стаць набыткам для агульнага ўжытку. Тут, пры выбары моўных фактаў, усё залежыць ад асабістага чуцьця таго, хто піша; сама лепшая рада тут мала паможа: тварыць ня кожнаму дано...

Нашым літаратурным работнікам трэба даць як можна больш моўнага матар'ялу для апрацоўкі, для стылізацыі. Трэба пазнаёміць іх з багатымі сырымі запасамі нашае мовы, трэба паказаць ім нашае багацьце...

У гэтым кароткім нарысе я хачу зрабіць некаторыя ўвагі сынтаксычнага характару што да беларускае мовы і тым стаць у прыгодзе нашай літаратурнай мове. Тут я пакажу на некаторыя, найбольш характэрныя ды пашыраныя хібы нашае сучаснае літаратурнае мовы ды падам іншыя формы й звароты, а таксама пакажу на тыя асаблівасьці беларускае народнае мовы, якіх літаратурная мова павінна трымацца, каб не адарвацца ад народнй (дыялектычнай) крыніцы да ня стаць штучнай і мёртвай, якой робіцца ўжо бліжэйшая да нас расейская мова. Сучасная літаратурная расейская (велікаруская) мова вытварана велікарускімі вышэйшымі каманднымі станамі і іх паслугачымі, адарванымі ад народных мас, на аснове ц.-славянскае мовы з элемэнтамі старасьвецкай беларускай (і ўкраінскай) літаратурнай мовы, таксама штучнай і далёкай ад жывой народнай мовы. І не зважаючы на пэўную прымесь у ёй элемэнтаў велікарускае маскоўскае гутаркі (дыялекту), гэтая расейская літаратурная мова з аднолькавым правам можа называцца беларускай і ўкраінскай мёртва-літаратурнай мовай, як некалі была такою мовай для гэтых народаў ц.-славянская мова. І, глянуўшы на расейскую літаратурную мову з гістарычнага боку, трудна сказаць з пэўнасьцю, хто быў яе пачынальнікам - самі велікарусы ці беларуска-ўкраінскія выхадцы? Прынамсі, не падлягае сумненьню, што такія асобы, як Сымон Палацкі, Феофан Пракаповіч і іншыя, далей - славянская граматыка Мелеція Сматрыцкага, што служыла ўзорам Ламаносаву, потым Гогаль, Булгарын, пра каторага наша поэма кажа, што ён быў «рэдактор усіх газэт» (расейскіх, разумеецца), і шмат, і шмат іншых, іменьні каторых «ты, госпадзі, весі», - ня мала папрацавалі над расейскай літаратурнай мовай. Таксама ня мала папрацаваў над ёю і немец Грот; Грот блага нават гаварыў парасейску, а тымчасам даў расейцам свой, усім вядомы, правапіс, які пануе ў іх і дагэтуль.




**Гэта вокладка кнігі, якая выходзіць у свет напярэдадні Калядаў. У ёй сабрана творчасць Язэпа Лёсіка, выбітнага вучонага і грамадскага дзеяча, за тыя гады, што замяняюць кнізе назву. Выдаўцы з глыбокай адказнасцю і пашанай паставіліся да падрыхтоўкі выдання. У ім 400 старонак, яно выдатна праілюстравана, адпавядае лепшым сучасным стандартам еўрапейскага кнігадрукавання і з`яўляецца выданнем падарункавым. Мець творы выдатнага мовазнаўцы ў хатняй бібліятэцы - радасць для кожнага навукоўца, выкладчыка, настаўніка, чыя прафесійная дзейнасць і інтарэсы звязаныя з мовай.**

# Не па-чалавечы...



Будынак вучэбнага корпуса Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Мінску па вул. Ленінградскай, 12 знаходзіцца непадалёк ад чыгуначнага вакзала. Будаваўся ён маладой беларускай дзяржавай у комплексе універсітэцкага гарадка ў 1927-1930 гадах. Будаваўся ў стылі унікальнага савецкага канструктывізму і нездарма быў узяты пад ахову і ўнесены ў Збор помнікаў гісторыі і культуры па Мінску. То было правільнае рашэнне, прадыктаванае самім жыццём. Праз шаснаццаць гадоў, у 2000-м, Навукова-метадычная рада па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры краіны (далей - рада) - яшчэ раз падцвердзіла значнасць гэтага помніка архітэктуры і надала яму другую ахоўную катэгорыю.

Гэты будынак заслугоўвае нашай пашаны. У ім вучылася, а потым і працавала выдатная беларуская медычная прафесура. Сцяну гэтага дома можна было завесіць шыльдамі з сусветна вядомымі імёнамі. У 1944-м на свае грошы выкладчыкі медінстытута імкнуліся давесці будынак да ладу, каб неадкладна надаць яму даваеннае прызначэнне. Гісторыю будынкаў на Ленінградскай можна пісаць і пісаць. Яшчэ нядаўна гэты куточак беларускай сталіцы ціха і лагодна глядзеў у будучыню, бо, згодна з арт.26 Закона «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны» і ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў РБ ад 16.10.1998 № 1590 «Аб беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай радзе...», пасля прыняцця ёю 20.09.2000 года п.8 пратакола № 60, ніякія іншыя прычыны не маглі перашкодзіць далейшаму існаванню дома па Ленінградскай, 12, апроч уздзеяння стыхійных прыродных фактараў. Ды, натуральныя землятрусы на Беларусі даволі рэдкая з'ява, а вось рукатворны форс-мажор - гэта калі ласка. Пратаколам ад 24.10.2001 г. № 68, п. 4, згаданая Навукова-метадычная рада адмяніла сваё папярэдняе рашэнне і дом, што семнаццаць гадоў знаходзіўся пад аховай дзяржавы, аказаўся безабаронным. Ці то быў нейкі заказ, ці проста адбылася прафесійная памылка, але парушэнні закона пры зняцці згаданага помніка архітэктуры з уліку відавочныя. У прыватнасці, прыняцце такога рашэння не ўваходзіла ў кампетэнцыю Навукова-метадычнай рады (гл. Закон «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны», арт. 26; пастанова Савета Міністраў РБ ад 16.10.1998 № 1590 «Аб беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай радзе...» п.5.1.). Да таго ж пратакол ад 24.10.2001г. № 68 быў прыняты пры адсутнасці кворуму рады (прысутнічала пяць яе членаў замест абавязковых сямі) ды і прагаласавала за рашэнне менш сямі членаў спісачнага складу, што супярэчыць пп.10, 11а пастановы Савета Міністраў Беларусі ад 16.10.1998 № 1590 «Аб беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай радзе...».

Хай чытач даруе за такую дакладнасць, ды яна неабходная. Прынятае рашэнне аб зняцці згаданага архітэктурнага помніка з уліку пярэчыць духу і літары Закона «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны» (гл. прэамбулу Закона, арт. 5, 8, 26, 32). Яно сведчыць аб тым, што архітэктурныя помнікі ў сталіцы руйнуюцца не з-за адсутнасці заканадаўства, а якраз пры яго наяўнасці. 20 верасня 2000 г. на падставе рашэння рады Мінгарвыканкам прыняў рашэнне, якое санкцыянавала разборку будынка вучэбнага корпуса Белдзяржуніверсітэта па вул. Ленінградскай, 12.

Будынак паддаецца злому з вялікімі цяжкасцямі. Камунары будавалі сцены сумленна. Калі падзе апошняя сцяна будынка-помніка, на яго месцы будзе ўзведзена новая бібліятэка БДУ. Зразумела, штобібліятэка патрэбна. Але праект мог ўключаць захаванне ранейшага будынка, як часткі. Гэтакая павага аказваецца памятным будынкам ва ўсіх краінах, дзе кіруюцца законамі аб захаванні спадчыны. А ў нас цноты маладога пакалення будуць выхоўвацца на месцы знішчанага помніка архітэктуры.

**Віктар ХУРСІК**

## Памятныя мясціны



Гэты будынак, шчыльна завешаны плёнкай, – МакДональдс ля сталічнага чыгуначнага вакзала. Ён быў пабудаваны на тэрыторыі, якая належыць БДУ і з яго згоды. Аднак гады два, а мо і болей, назад БДУ вырашыў узвесці на гэтым месцы новы вучэбны корпус, і распачаўся скандал, бо існавала доўгатэрміновая дамова аб арэндзе зямлі, будынак каштаваў немалыя сродкі, даваў працу мноству людзей і быў адзіным пунктам харчавання ў гэтым раёне. За два гады універсітэцкае будаўніцтва ледзь зрушылася з месца, і зразумець дзеля чаго закрылі зручны для людзей МакДональдс немагчыма. Проста так, захацелася. Жыццё вернецца ў гэты будынак, калі паўстане гмах вучэбнага корпуса, а гэта, як можна бачыць на здымку , надта далёкая перспектыва. Паколькі за два гады адкрыліся сталоўкі і буфеты ў новым вакзале і ў падземных пераходах да яго, дык міжвольна думаецца, што МакДональдсу проста далі снатворнае з эканамічных меркаванняў.

## Здымак для мінскага мэра сп. Паўлава

**Калі хто хоча пабачыць у Мінску тое, да чаго не даўмелася начальства ніводнага іншага горада на свеце, то варта схадзіць на вул. Румянцава (станцыя метро «Плошча Перамогі»), дзе паміж дамамі № 13 і № 15 проста над тратуарам на вышыні 8 метраў падвешаны на дроце драўляны цурбан вагой з пуд. Аўтарам гэтай унікальнай аздобы выступіў гарадскі камунгас, пакінуўшы ў паветры цурбан на памяць аб зрэзанай таполі. Цікава, спадар мэр, ці возьме хто на сябе адказнасць, калі гэты плён ляноты вырашыць зваліцца на чыюсьці галаву?**



Арсень Ліс

# Платонаў Іван: дарога на Бацькаўшчыну

*Лёс беларускага грамадзяніна – з цыклу «Вётхаўскія эцюды»*




Вётхава – невялікая новапаўсталая пасля адмены прыгону вёска ў Залескай ваколіцы. Усе гаспадары новага селішча, што будавалася на землях графа Агінскага, былі адпушчаныя на волю парабкі графа і яго нашчадкаў. Новазаснаванай вёсцы афіцыйна было нададзена імя ў гонар цара-вызваліцеля Новааляксандрава. Пераказвалі з тых часоў, я пачуў тое ад бацькі. Пасля нарэзкі надзелаў па тры дзесяціны на кожнага гаспадара, адзін з каморнікаў спытаўся ў сялян: «Czy vystarcze? Ці досыць?» – паправіўся па-тутэйшаму. Пачуўшы няпэўнае: «Нейк жа дадзём сабе рады, дзякуй, паночку», – адрэагаваў грэбліва, працадзіўшы нешта крыўднае скрозь зубы. Другі землямер, мабыць, яго памочнік, абраніў пад тое слова: «Ветхая будет деревенька». Слова «ветхая», не зусім і зразумелае, запомнілася і няўзнак дало адвольнае найменне вёсцы – Вётхава. А той прыгожы афіцыйны назоў неяк адпаў, з часам зусім забыўся.

Тым часам паселеным на ўласных загонах загаспадарылася рупна. Надзелы далей стараліся не драбіць. Сыноў дзеля ўласнага кавалка хлеба па магчымасці абучалі рамёствам. Сяму-таму з маладзейшых ветхавічан удалося выйсці ў людзі праз асвету: непадалёк былі Маладзечанская і Барунская настаўніцкія семінарыі.

Сярод ветхавічан, як і ўсюды ў вёсцы, жыло некалькі аднафамільцаў. Каб неяк адрозніць, вылучыць кожную сям`ю асобна, менавалі іх паводле імя найстарэйшага, гаспадара ў хаце. Так, Дудкі для ўсіх сталіся Баўтруковымі, бо найстарэйшым у іх быў Баўтрук, па-царкоўнаславянску – Варфаламей. Лісы былі Габруковы. Яшчэ адных Лісаў звалі па мянушцы. Сям`ю ж тых Лісаў, пра якую хачу распавесці, звалі Платонавымі. Такое імя было ў гаспадара вялікай, на дванаццаць душ сям`і, у якой мелася чатыры дачкі і шасцёра сыноў. Сыноў сваіх Платон, памятаю яго яшчэ дзіцячай памяццю, высокага, мажнага. з буйной лысай галавой філосафа, стараўся кожнага навучыць якому-небудзь рамяству, даць у рукі фах, як казалі даўней. Старэйшага Паўлюка аддаў у памочнікі кавалю, і хлопец, раздзьмухваючы кавальскімі мяхамі агонь у горне ды б`ючы молатам жалеза на накавальні, за два-тры гады выбіўся на самастойнага кавальца. Аддаўшы замуж у суседнія Яневічы старэйшую дачку Надзю, Платон неўзабаве выправіў у людзі і свайго маладога каваля, ажаніўшы яго з прыёмнай дачкой гаспадарлівага Макары Ліса. Сват не замарудзеў пабудаваць пры самым садзе зяцю-прымаку ладную кузеньку, закупіць патрэбны ў ёй рыштунак. Паўлюк пачаў каваць коней, нацягваць на колы шыны, зубіць сярпы і ўжо ўдваіх з цесцем рэальна марыць, каб прыкупіць трохі зямлі. Падстаршага сына Хведара Платон вывучыў на печніка. Той, муруючы людзям печы, пліты, грубкі, з часам спабіўся на ўласны грош, ажаніўся з Аленай Баўтручышкай і пабудаваўся побач з бацькавай сядзібай праз вуліцу. Трэці Платонаў сын, Валодзя, стаў краўцом, шыў усякую адзежыну, у тым ліку неблагія кажухі. Упадабаў сястру братавай жонкі, наймалодшую Баўтрукову дачку, галасістую, спеўную Ніну і пайшоў да яе наўпрымы. Стары Баўтрук, у якога адзіны сын быў настаўнікам, высланым аж у Пазнаншчыну, перадаў зяцю разам з дачкою гаспадарку. Пяты сын Мікалай няблага вучыўся, скончыў сем класаў польскай школы. Бацька заадно стараўся, каб і ён не застаўся без рамеснага ўмельства, уладкаваў яго вучыцца на шаўца. Платонавы сыны Іван і Барыс больш гарнуліся да спрадвечнай працы земляроба. Барыс наняўся, падзённа працаваў на полі ў тутэйшага асадніка Капчынскага. Іван жа пераняў працу з бацькавых рук, дома: хадзіў за плугам і бараной, касіў, – упраўляўся з гаспадаркай.

Івана я ўбачыў упершыню, калі ён вярнуўся з Англіі. Было тое недзе ў годзе 1948-м. Я браўся пад дарослага падлетка і зрэдзь часу ўжо падсаджваўся на край лаўкі пад старым вязам ля Платонавых, дзе ў нядзелю збіраліся пагаманіць хлапцы. Іван, ужо сталы дзяцюк, заўсёды чыста выгалены, акуратны, у лёгкай тужурцы замежнага крою, выходзіў да іх. Быў негаманкі, усмешлівы. Хлопцы былі з ім пачцівыя, адчувалася – паважалі. Іван збіраўся жаніцца: сёстры ўжо былі ўсе па замужжы, дома заставалася адна маці. Старая Платоніха, мужа ўжо не было ў жывых, як ніхто ўсцешылася звароту сына з далёкага свету. Спадзявалася дажыць свой век пры ім пад роднай страхой. Перад шчаслівым вяртаннем Івана Настасся Платоніха ўжо адплакала ў душы двух сыноў, Барыса і самага меншага Колю. Барыса яшчэ вясной 1939 года былі ўзяўшы на чынную службу ў Польскае войска, як немец напаў на Польшчу, ён прапаў без вестак. Тады ж палякамі быў мабілізаваны і Іван. У хаце ненадоўга заставаўся толькі Мікалай. Як прыйшлі Саветы, ён падаўся на настаўніцкія курсы і трохі паспеў папрацаваць у школцы пад Крэвам. У 1940 г., як і іншыя вётхаўскія хлопцы, яго гадкі – Жэня Зыдораў, Васіль Гаварэньчык, Валодзя Будвіс, Васіль Кізікаў, быў прызваны ў Чырвоную Армію. Ніхто з іх дамоў не вярнуўся, усіх паглынула невядомасць. Недзе ў 1947 ваенкамат прыслаў Платонісе пахаронку на Колю. Крыху суцешыла маці акуратна высыланая невялікая выплата за сына. Па нейкім часе прыйшоў ліст з Польшчы. Невядомая жанчына, медыцынская сястра пісала, як і дзе загінуў Платонаў сын Барыс, польскі жаўнер. Івану шчаслівейшы, знаць, выпаў лёс: абмінулі нямецкія кулі і асколкі, і вось без мала праз дзесяць гадоў вярнуўся ён жывы і здаровы.

Збольшага агледзеўшыся на бацькаўшчыне, да якой праз гады імкнуўся, прыгледзеў у прысёлку за рэчкай светлалікую жвавую дзяўчыну Любу Дудкаву. Адыходзячы на фронт, Іван на вечарыне ў гурце падлеткаў краем вока мог убачыць яе іскрыстыя вочы, але наўрад падумаў бы, што яна патрапіць закінуць у яго ўжо пасталелую душу неспакой. Цяпер гэта была дзяўчына, поўная маладой красы і сілы, жывая, бойкая. Неўзабаве іх можна было ўгледзець разам на падвор`і ў Платонавых. Седзячы на лаўцы пад акном, захінутыя ад вуліцы кустом буйнарослых жоўтых кветак, яны выглядалі шчаслівай парай. Люба тулілася да дужага Іванавага пляча, зазірала яму ў вочы, а ён стрымана ўсміхаўся ёй. Ішло да вяселля. Было ад таго ўсцешна абедзвюм маці. Нікому з Платонавых людзі не маглі даць ганьбы: род быў працавіты, акуратны – жылі годна. Ды рассцерагло закаханых ліха. Аднае ночы здарылася такое, што толькі ў жахлівым сне можа прысніцца, – трагічнае, неверагоднае. У раёне з нейкага часу глуха хадзілі чуткі пра нейкіх людзей, што, робячы ў заготзярно, пракраліся і сышлі ў лес, дастаўшы прыхаваную за часы партызанкі зброю. Не сказаць, каб яны дзёрзка разбойнічалі. Часам, праўда, забіралі штосьці з хлебных прыпасаў у сельскіх магазінах. Да людзей, гаспадароў не ўчашчалі. Вядома, заглядалі на хутары, у надналелле, але без лішняга гвалту. НКВД неяк без поспеху цікавала за лоўкай двойкай, ды доўга не магло высачыць іх ляснога прыстанішча. Крылоў і Шумакоў паводзілі сябе як спрактыкаваныя лесаўчукі. З`яўляліся раптам недзе і тут жа, як скрозь зямлю, праваліваліся. Але канца было ім не мінуць. А перад ім два начныя валацугі прычыніліся да смерці Любы і яе шасцідзесяцігадовай маці. Потым казалі, нібыта меліся ў Крылова нейкія разрахункі з Любіным братам Ванькам. Нібыта служылі разам з ім у Германіі і з таго часу былі знаёмыя. Ці то сапраўды наважылі за нешта паквітацца, ці проста збадзялы ў начных вылазках прыйшлы чалавек успомніў, што ў Ванькі павінен быць добры нямецкі касцюм, можа не адзін... Глыбокай восенню апоўначы ілжэ-партызаны загрукалі ў хату да Дудкавых. Відаць, былі нападпітку і разам з гарластым «Отворяй!» ударылі ў дзверы прыкладам. Ванька з братам, як стой, выскачылі праз акно, у хаце засталіся толькі маці і Люба. Адзін з няпрошаных гасцей палез у шафу. Люба ж, нядоўга думаючы, агрэла яго па спіне тым, што было пад рукой, ды кінулася наўцёкі. Куля дагнала яе адразу за парогам. Бандыты зрэзалі аўтаматнай чаргой старую жанчыну, якая ашаломлена ўпала ў крэсла, лінулі карасінай на ложак і падпалілі... Мужчыны вярнуліся, калі хата занялася полымем. Паспелі вынесці мёртвую маці, патушыць агонь. Сабраліся дзе хто з суседзяў. Люба, працятая навылет разрыўной куляй, адыходзіла з жыцця пакутліва. Учыніўшыя злачынства хутка знайшлі сваю смерць таксама. Праўда, без суда. Жывымі ў рукі опергрупе НКВД не даліся. Было адшукана і іх лежбішча з запасам кансерваў, хлеба, гарэлкі, сушанай рыбы. Яно знаходзілася ў старых нямецкіх бліндажах, што засталіся пад Крэвам ад Першай сусветнай вайны.

Праз год пасля таго здарэння Іван ажаніўся. Узяў з далейшай вёскі Сівіцы пасватаную яму Вольгу Казакевічышку. Але няшчасці, беды неяк неадступна пайшлі за ім як наканаванне. Разам з іншымі землякамі мне між волі давялося быць сведкаю таго, што нечакана здарылася з Іванам і яго сям`ёй. Была субота. Па заканчэнні ўрокаў у Смаргонях я, як звычайна, прыехаў дамоў. Пайшлі з бацькам у лазню. Мужчыны, мыючыся, неяк сцішана, з аглядкай загаварылі пра тое, што на станцыю прыгнаны і пастаўлены асобна нейкі нязвычны эшалон. Назаўтра раніцай, было тое першага красавіка 1951 года, сядзібу Платонавых акружылі людзі ў форме з малінавымі пагонамі. Нікога не падпускалі, ды старэйшыя, хоць і цікава была тая праява, не надта высоўваліся, пaглядалі здалёк, затаіўшыся ў сваіх падворках. Дзеці, здавалася, таксама праніклася строгасцю моманта: такога яшчэ не здаралася бачыць, падзея інтрыгавала. Пачулася: «Вывозяць»... Са старэйшых наблізіўся да ачаплення адзін Южыкаў Паўлюк. Казалі потым, што паслала яго швагерка, жонка памерлага брата Васіля Верка. Спадзявалася, можа ўдасца выбавіць ад вывазу маці. Колькі таго часу, як агню схапіць, пражыла маці пры Іване, каб цяпер без дай прычыны, нізашта звезці немаведама-куды, за свет старыя косці? Аж пяцёра яе, Платоніхі, дзяцей заставалася ў вёсцы.

Заканчэнне на стар. 10

# Дарога на Бацькаўшчыну

Пачатак на стар. 9

Акрамя старэйшай Веркі, самая малодшая Зіна, што нядаўна выйшла замуж за Міцю Шымана, і яшчэ тры сыны, якія даўно жылі тут сваімі сем`ямі. Павел Южык, нядаўні франтавік, савецкі актывіст, таптаўся ў нерашучасці, так і не здолеўшы пераступіць тую рысу, што аддзяляла цяпер Іванаву сям`ю, маці ад усіх вётхавічан. А каб і пераступіў, то хто б парушыў той, недзе складзены на вываз, спіс.

Якой доўгай ні была Іванава дарога дамоў, што пачыналася з лагера польскіх ваеннапалонных на Валыні праз Іран, Ірак, Монтэ-Касіна, Англію, яна так не здоўжылася яму. Прынамсі, не была такой гнятлівай, як гэта нязнанае падарожжа з сям`ёю ў Сібір. Раней таксама было шмат невядомага. Але так не звужалася перспектыва, як цяпер, – да аднаго невялікага барака ў таёжнай глушы. Васемнаццаць сутак іх везлі цягніком да станцыі Усолле Іркуцкай вобласці. Як развіднела, адчынілі вагоны, хадзіла начальства, перапісвалі сем`і. Перапісаным тут жа было загадана выгружацца. Падалі машыны. Яшчэ пяць сутак Платонавых разам з Шаракамі з Кавальцаў ды сям"ёй Казла з Маркава па веснавым бездарожжы везлі на месца пасялення. Жыццёвая дарога Івана і яго сям`і ўпёрлася ў глухі мур. Навокал барака былі адно хмуры лес і неба. Ізноў чужая зямля, невядомасць. Сам барак Івану не быў у навіну. У тым канцы яго, дзе пасялілі дзве маладзечанскія сям`і, былі такіясякія краваці, тут жа, дзе выпала Платонавым, стаяў стол-разваллюха і лаўка. Іван перш-наперш змайстраваў з дошак нары – палок, такі некалі бачыў у дзеда. Былі якраз велікодныя дні. Маці зварыла тое-сёе з мясных запасаў, што ўдалося ўзяць з сабою. А вось з хлебам выйшла незадача. Якраз надоечы перад вывазам маці напякла яго як на вялікую сям`ю. Але за доўгую дарогу ў мяшку ён зацвіў, ссівеў. Давялося прыкусваць хоць такім.

Маці з Вольгай засталіся ў бараку адны: мужчынаў забралі на лесапавал, некуды вёрст за дваццаць пяць адсюль. Зрэдзь часу Іван вяртаўся да сям`і, прыносіў заробак. На работу не скардзіўся, уцягнуўся. Прызнаўся маці: стамляла не так яна, як выклікі на начны допыт. Давядзі, што ты – не вярблюд.

Допыты цягнуліся доўга. Усё круцілася ля аднаго. Кожны раз следчы пахмурна-велічна пачынаў з таго ж самага: прозвішча, імя, імя па бацьку, месца нарадзінаў... Потым – каторы раз: як трапіў у армію генерала Андэрса. І адказ быў адзін, той самы, што на пазамінулым, мінулым тыдні: «Выклікалі ў лагерную канцылярыю, такі ж вайсковец, як вы, тлумачыў па-руску, што я, былы польскі падданы, магу ўступіць у польскія фарміраванні, якія цяпер арганізуюцца ў Саюзе...

«Спадзяваўся праз фронт патраплю дамоў, у Беларусь». «Не выйшла, – следчы забарабаніў пальцамі па стале і тут жа пытаў з`едліва: – Рашыў вярнуцца акружным шляхам, з Захаду? Для чаго?» Іван казаў, што ў польскім корпусе, які ваяваў у складзе брытанскіх войск на Апенінах, было нямала беларусаў, і пасля дэмабілізацыі з іх мала хто пажадаў застацца ў Англіі. Пацягнуліся дамоў, і цяпер такое ўражанне, што замест дому ўсе сабраны тут, з сем`ямі на высылцы.

Падчас допытаў высвятлялася кола сяброў і знаёмых падследнага. Раз следчы з абыякавым выглядам спыніўся на прозвішчы Іванава земляка-аднавяскоўца Рачэўскага. Разам служылі ў польскім корпусе, разам вярнуліся дамоў. Пад тое пытанне ўспомнілася Івану, што незадаўга да вывазу Рачэўскі быў зачасціў да яго і ўсё заводзіў гутарку пра палітыку. Аднойчы прама сказаў, спытаўся: «Ці не паспяшаліся мы, браце, прывалачыся сюды, на гэту бацькаўшчыну?» Іван тады адно пацiснуў плячыма. Яшчэ згадалася яму цяпер, што вайсковыя ўзнагароды, калі Іван замешкаўся з адказам пры вывазе, опер, ці як яго там, загадаў прынесці канкрэтна, з падстрэшка, а ведаў пра гэты схоў толькі Рачэўскі. Аднойчы неяк ён быў спытаўся ў Івана: «Ці не саржавелі дзе твае крыжы?» Тым часам сам, як пісала з дому маці, пазбег вывазу, застаўся ў Вётхаве. Гэта наводзіла на думку... Ды Бог з ім. Можа, проста шчаслівейшы лёс выпаў чалавеку. Допыты ішлі няроўна. Цярплівы Іван раз гатоў быў сарвацца – накіпела на душы. «Каб знаў, што так стане, падмануць...» Следчы адчуў настрой падуладнага, сашчурыўся, кінуў з`едліва: «Прагадаў!» і раптам узвіўся злосны: «Гавары, хто паслаў!» – ужо крычаў, схапіўшы Івана за грудкі, цягнушыся да горла. Падследны варухнуў плячыма лесаруба, і той, як вырваны з Іванавай сарочкі гузік, што пакаціўся пад стол, адскочыў убок. Асабіст як ускіпеў, так раптам і астыў, сказаў толькі з пагрозай у голасе, папраўляючы мундзір: «Пагаворым заўтра!..»

Не сказаць, каб пасля таго выпадку Івана перасталі выклікаць у асобы аддзел, але допыты, здавалася яму, усё больш фармалізаваліся, расцягваліся. Мабыць, пераканаўся асабіст, што зрабіць англійскага шпіёна з гэтага беларускага мужыка, які так і не навучыўся гаварыць па-руску, а ўсё «дзе», «чаму», не ўдасца. Са свайго боку Іван таксама нібы зміраўся з мучыцелем: «Што зробіш? Відаць, такая ў чалавека работа, служба няўдзячная».

Тым часам у чужым далёкім краі Платонавы паволі прывыкалі да стану людзей, выкінутых на вольнае пасяленне. Мо найбалючай забраная ад іх, пакінутая свая зямля перажывалася маці Платоніхай. Перад вачыма ў старой увесь час стаяла родная хата, усё, што было пражыта, перажыта пад яе страхою. Маячылі ўваччу яе дзеці, унукі, суседзі. Пісала ў лістах, што ляцела б у родную старану, каб убачыць іх хоць на адну хвіліну. Першае сваё сібірскае лета яны з Вольгай не пасадзілі, не пасеялі нічога, а ні каліўца. Ні заганяць у хлеў, ні даглядаць, ні даіць – нічога не было трэба. Адно зварыць есці. Дроў у лесе – толькі падбірай. Але колькі той еміны трэ на двaіх. Іван недзе сам сабе варыў, карміўся асобна на тых лясных нарыхтоўках.

Горна ўспаміналася пажылой маці печ, у якой суботамі яна пякла на кляновых лістах усімі ўпадабаныя свае хлябы. Добра было б цяпер на той печы пагрэць зябнучыя старыя ногі. «За што мяне пакараў Бог?» – вырывалася роспачна з грудзей. Пытала пра гэта ў самой сябе, у родных. Увосень свякроў з нявесткай злучыў адзін супольны клопат. У Вольгі нарадзіўся сынок, сібірскі ўнучак Платоніхі. Не было калыскі. Калыхалі пазменна з Вольгай на руках ды ў падушцы. Хлапчанё было неспакойнае: плакаў, усхліпваў ноччу Іванка. Не памятала Платоніха начнога галасу, калі гадавала сваіх дзяцей, хоць было рознага. Іван аб`яўляўся больш на святы: май, акцябарскія, Новы год. Плацілі яму не згорш, і Платонавы сталі падумываць, каб завесці нейкую гаспадарку.

На другую сваю сібірскую вясну жанчыны пасадзілі дзвеградкі: адну – буракоў, а другую – цыбулі. Нялёгка было ўскапаць тую лапінку лясной зямлі пад грады, але ўжо нешта расло. Там купілі парася, і ўжо як бы было за што зачапіць рукі. З трывогай пісала Анастасся Платоніха дамоў, пытаючыся ў адным з лістоў, што цяпер на месцы іх былой хаты. Нярэдка плакала, малілася. Моцна гаравала з-за старэйшай дачкі Надзі. Тая пры жывым мужыку адна, з-за неўразумелае для маці правіны пасаджаным у турму, гадавала, падымала траіх дзяцей. Журылася старэнькая, што ў час вывазу не здолела перадаць сваёй «бяздольніцы-гаротніцы» часткі дабра з хаты. Спадзявалася, пісала Надзі, што яе Васіль, пэўна, хутка прыйдзе дамоў: «За што ж трымаць без віны чалавека ў няволі».

Дурната, здзек з чалавека, пэўна, не вечныя. У Іванавай душы тлела іскра надзеі вярнуцца на Беларусь. Яна стала пацiху разгарацца, яснець пасля сакавіка 1953 года. У Маскве не стала чалавека, які так усеўладна быў узнёсся над вялікай краінай, вялікі ў сваім гневе, сіле волі, іранічнай сутнасці. Людзі, асабліва тут, на зямлі спрадвечнай няволі, сціху загаварылі аб неўнікнёных зменах, спадзяваліся на добрае. Не ўсім аднак паспела ўсміхнуцца Свабода. Апошняе пісьмо Анастассі Платоніхі з Сібіры ў Вётхава было напісана ёю пятага красавіка 1953 года, на першы дзень Вялікадня, і пачыналася словамі «Хрыстос Васкрэсе!» Было яно карацейшае за ранейшыя. Сярод святочных побытавых рэалій у ім (афарбавалі пятнаццаць яек ад сваіх курэй, напяклі булак, начыніўшы іх яйкамі і малозівам) сумнае прызнанне: « Жыву і сама дзіўлюся, якая я худая. Зусім не магу есці – нічога мне не смачна. Перад святам хадзіла ў лазню, ледзь прыйшла да хаты».

Выбіраўся Іван з Вольгай пасля пяцігадовага выгнання з Сібіры ў Беларусь ужо без маці. Не собіла старэнькай, як яна і прадчувала гэта, скласці свае косці дома, легчы на кладах пад старой царквой побач са сваім Платонам. Ён аказаўся шчаслівейшы.

У Вётхаве пры самым котлішчы бацькавай хаты Іван пачаў будаваць сабе дом. Не паспеў яго завяршыць, як у дзверы пастукала новае гора – захварэла і хутка памерла Вольга. Іван застаўся адзін з сынам. Хлопчыку не пашанцавала з маленства. Незнарок дзесь раз ударыўшыся спінкай, маленькі Іван, поўнячы матчына сэрца жалем і трывогай, рос гарбуном. Пасля смерці Вольгі стала цяжка абодвум мужчынам, малому і вялікаму.

Аўдавеламу Івану параілі гаспадыню, жанчыну з Вольгінай вёскі. Яна перабралася ў Вётхава, стала рабіць на калгаснай ферме. Іван дапамагаў ёй у працы, падвозіў кармы, сам даглядаў племяннога быка. Аднаго разу, калі Іван адкідаў гной, чысціў стойла, жывёліна чагосьці раптам уз`юшылася, пайшла на яго смяротным боем. Бык выбіў вілы з Іванавых рук, перакінуў яго праз спіну, гатоў быў растаптаць. Але Івану ўдалося ўсхапіцца на ногі і прысланіцца да сцяны. Раз`ятраная зверына з ровам біла раскрыжаванага пры сцяне чалавека. Прыбегшы на паратунак, людзі ледзь утаймавалі ашалелага ад лютасці быка. Хірург у Смаргонях мусіў адняць Івану нагу – пагражала гангрэна.

Тым часам лёс, не скупячыся Івану на гора і беды, адмераў яму доўгі век. У сваім жыцці ён патрапіў пераступіць дзевяностагадовы рубеж, чаго ў трывалым родзе Платонавых нікому зрабіць не ўдавалася. Іншая рэч, што парознаму напоўнена было жыццё іх кожнага паасобку.

Не стала Бацькаўшчына Платонаву Івану роднай маці, бо не была гаспадыняй у сваім вялікім, на ўсю Беларусь, доме. Ці ўсвядоміў Іван за сваё доўгае жыццё гэту праўду, як і іншыя некаторыя агульналюдскія ісціны, сказаць цяжка. Але тое, што ўласным лёсам адчуў ён гэта на ўсю паўніну, жыццё Івана Платонавага сведчыць. Адным Божым промыслам, як загадкава ні вялік ён, жыццё чалавека не вызначаецца. Ёсць яшчэ воля, розум і сума абставін. Часта гэтыя апошнія мацней за чалавека на яго дарозе ў вечнасць.



**На здымку злева – макет помніка ахвярам сталінізму, як напісана ў прысвячэнні: «Тым, каго называлі «кулакамі», «ворагамі народа», «рэзідэнтамі замежных разведак», а затым гвалтоўна пазбавілі жыцця». Аўтар праекта – вядомы скульптар Валяр`ян Янушкевіч.**
**Зарэгістраваны Фонд «Памяць ахвяр сталінізму Беларусі» хадайнічае перад уладамі пра ўзвядзенне гэтага помніка ля скрыжавання вуліц Камсамольская і Карла Маркса ў Мінску, крыху далей за бюст Фелікса Дзяржынскага.**
**Крыніцамі фінансавання Фонд называе ахвяраванні грамадзянаў, фізічных і юрыдычных асобаў, якія можна перасылаць на Дабрачынны разліковы рахунак 3135052780011 у Мінскім філіяле № 512 АСБ «Беларусбанк», код 604**

***Ад рэдакцыі.*** Пры ўсёй павазе да высакародных пачуццяў, якімі кіруюцца аўтары дадзенага праекта, варта адзначыць, што Помнік ахвярам сталінізму можа быць створаны выключна на конкурснай аснове з шырокім абмеркаваннем праектаў сярод дэмакратычнай грамадскасці. Бо ёсць прапановы ўсталявання Помніка ахвярам сталінізму ў Курапатах, у іншых мясцінах, звязаных з масавымі забойствамі невінаватых людзей карнымі органамі. Здаецца, напачатку усім нам варта знайсці паразуменне паміж сабой, выпрацаваць хоць у агульных рысах крытэрыі, якіх мусіць трымацца скульптар, выращаючы мастацкі сімвал народнага бедства.



Фота А.Дзетцяроў

# «Znich»: новы альбом прысвячаем вяскоўцам!

Яшчэ ў час творчага росквіту знакамітых «Песняроў» некаторыя фальклярысты пачалі біць трывогу і задаваць пытанні, кшталту: а ці не разбураюць традыцыйны фальклор сучасныя яго апрацоўкі? Час парадаксальна паставіў усё на свае месцы: творы паводле народнай спадчыны і самі сталі сучасным фальклорам. Прыклад «Песняроў» – добры аргумент для скептыкаў. Творчасць знакамітага беларускага ансамбля інспіравала новыя стылявыя пошукі ў галіне сінтэзу фальклору і папулярнай музыкі. Аж да таго, што многія выканаўцы фолк-мадэрну самі сталі вывучаць традыцыйны фальклор.

Адным з такіх маладых даследчыкаў і збіральнікаў беларускай песеннай спадчыны стаў Алесь Таболіч і яго сябры па гурту «Znich». Цікава, што апрацоўкі гурта «Znich» прадстаўляюць беларускі фальклор у экстрэмальнай стылістыцы. Не ведаем, як да гэтых эксперыментаў адносяцца фальклярысты, але слухачы прызналі гурт «Znich» за лідэраў беларускай фолк-рок-музыкі. І, не ў апошнюю чаргу, таму, што музыкі працуюць з нацыянальным фальклорам з глыбіні – бываюць у экспедыцыях, фіксуюць песенную творчасць беларусаў у розных кутках краіны. Сёння **Алесь Таболіч** госць нашай рэдакцыі, і мы задаём першае пытанне:

**– Хутка на CD выходзіць ваш чарговы альбом «Запаветы апошняга старца». Чаму ён атрымаў такую назву? Якія музыкі прынялі ўдзел у яго запісу?**

– На жаль, склад гурта «Znich» яшчэ не стабілізаваўся, але, я думаю, што гэта здарыцца пасля выхаду новага альбому. Падчас запісу мы запрасілі новых выканаўцаў – выкладчыка БДУКа, знанага дудара К. Трамбіцкага, вядомага гітарыста А. Крапіўніцкага. Мы граем і з музыкамі-ветэранамі гурта «Znich» – бубначом Д. Галіцкім, басістам П.Заручэўскім, вакалісткай Н Валынец.

Наш новы альбом «Запаветы апошняга старца» – напамін нашых продкаў нам, сучаснаму урбанізаванаму пакаленню, пра тыя скарбы, якія мы атрымалі ад нашых прашчураў, пра культуру, якую яны пакінулі нам. «Запаветамі...» мы хочам абудзіць у моладзі павагу да сваёй мінуўшчыны. Гэты альбом прысвечаны, перш за ўсё, вяскоўцам – людзям, якія з'яўляюцца носьбітамі культурных традыцый беларусаў і захоўваюць традыцыйную народную песню.

Літаратурную частку «Запаветаў...» – народную замову, якая з'яўляецца intro гэтай кружэлкі, выканаў на запісу заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Г. Маляўскі. Атрымалася цікава і інтрыгуюча, на наш погляд.

**– Якія творы беларускага фальклору склалі аснову гэтага альбому? Дзе вы бралі музычны матэрыял для сваіх апрацовак?**

– Па-першае, мы з Наталляй Валынец з'яўляемся сябрамі Студэнцкага этнаграфічнага таварыства і кожны год ездзім у экспедыцыі, фіксуем святы, абрады, традыцыі, робім нейкія імпрэзы і вывучаем і запісваем беларускі песенны фальклор.

Многія песні альбому «Запаветы апошняга старца» былі ўзятыя з гэтых паездак і адносяцца да




абрадавай сферы. Сярод іх ёсць купальскія, вясновыя, жалобныя і жаўнерскія песні. Перад тым, як запісаць гэтыя творы, мы іх дасканала прааналізавалі, асэнсавалі і прыйшлі да высновы, што многія творы беларускага фальклору нясуць адбітак пераходу ад аднаго стану жыцця да другога.

**– Ці можна казаць, што «Znich» застаўся верным свайму стылю – pagan-metal? Якія новыя стылістычныя рысы выявіліся ў гучанні гурта ў апошні час?**

– Канешне, застаўся. Але мы пачалі граць не проста pagan-metal, які выконвалі раней, а сталі рабіць музыку, якая бліжэй нам, беларусам. Цяпер мы заглыбіліся ў музычныя вытокі, пачалі больш дасканала вывучаць структуру традыцыйнай народнай песні, музыкі і ўсе гэтыя даследаванні і высновы ўпісалі ў кантэкст творчасці гурта «Znich». Я лічу, што гэтая музыка з'яўляецца неад'емнай часткай таго, што адбываецца на прасторы нашай metal-сцэны.

**– Ці задаволеныя вы супрацоўніцтвам з БМА group, якая ўзялася за выданне вашага кампакт-дыска?**

– Я лічу, што БМА group – адзінае надзейнае музычнае выдавецтва, з якім мы супрацоўнічаем вельмі даўно. Гэта добра, што БМА group падтрымлівае беларускамоўную музыку. Было б файна, каб было больш такіх структур, але на сённяшні дзень яна адзіная, хто выдае дыскі, арганізоўвае канцэрты, ажыццяўляе дапамогу беларускім камандам...

На мой погляд, БМА group за час свайго існавання зрабіла вельмі шмат для сучаснай беларускай культуры і за гэта ім вялікі дзякуй! А яшчэ прапагандуючы беларускасць, гісторыю нацыянальнага музычнага мастацтва, кіраўніцтва БМА group не адвярнулася ад альтэрнатыўных выканаўцаў і займаецца выданнем іх кампакт-дыскаў і іх распаўсюджваннем.

**– У чым бачаць удзельнікі гурта «Znich» сваю мэту, калі прадстаўляюць слухачам апрацоўкі фальклору ў extreme-стылістыцы?**

– Я думаю, што па сваіх музычных прыхільнасцях моладзь, якая слухае сучасную музыку, таксама падзяляецца на шматлікія плыні. Але і мы павінны прытрымлівацца «залатой сярэдзіны» ў музыцы: яна не павінна ўзбуджаць нематываваную агрэсію ці беспрычынную весялосць.

Музыканты павінны імкнуцца да таго, каб слухачы асэнсоўвалі, для чаго музыкі стварылі той ці іншы музычны твор. Калі гэта адбываецца, то для слухача прыадчыняюцца новыя таямніцы і гарызонты. Бо калі гучыць папса, дык яна ў адно вуха ўлятае, з другога – вылятае. «Чорная», сатанінская музыка – адваротны бок бяздумнага падыходу да музыкі і творчасці.

Думаю, што pagan-metal стаў, таксама, нейкай сучаснай класікай, а таму мэта музыкаў – абуджаць лепшыя чалавечыя пачуцці, каб слухачы лепш разумелі гэтую музыку.

**– Ці працягваецца выданне «Сотвара» – своеасаблівага даследніцкага часопіса па праблемах дахрысціянскага светапогляду нашых продкаў?**

– «Сотвар» пакуль не выходзіць таму, што ўзніклі фінансавыя праблемы. Да таго ж, я вырашыў крыху пачакаць з яго выданнем таму, што я яшчэ не поўнасцю асэнсаваў тое, што трэба цяпер несці чытачам, слухачам гурта «Znich».

Думаю, што «Сотвар» будзе адноўлены пазней, тым больш, што мяне запрасілі на вучобу ў аспірантуру, ведаючы маё стаўленне да даследніцкай працы.

Хачу, каб адной з тэмаў будучага нумару «Сотвара» стала тэма трыкалора – спалучэння чорнага, чырвонага і белага колераў, якія ў беларускім фальклоры нясуць сакральны сэнс. Хачу даследваць іх сувязь з сучаснай рэкламай, мастацтвам, дызайнам (я ж па спецыяльнасці дызайнер!). Гэтыя колеры – частка спадчыны нашых продкаў, усёй паганскай культуры, якую трэба вывучаць і трансфармаваць ў сучасным жыцці.

**– Алесь, ці існуе ваш з Наталляй Валынец праект «Беларуская хатка»? Над чым зараз працуюць яго ўдзельнікі?**

– Наталля зараз працуе ў Інстытуце праблем культуры і займаецца даследаваннем беларускага фальклору прафесійна. «Хатка» існуе як бы ў нашым сяброўскім коле. Яго ядро складаюць удзельнікі фальклорных гуртоў «Guda», «Кудмень», «Дэцань», якія займаюцца аўтэнтыкай. Мы робім сваю справу, але пакуль не выносім яе на шырокую публіку.

З БМА group у нас ёсць домова напрыканцы года выдаць дыск с запісамі традыцыйнага беларускага фальклору розных накірункаў, жанраў і зрабіць фестываль, накшталт «Таўкачыкаў», ці яго працяг.

Выданне гэтага дыска здаецца рэальным, бо каля 20 запісаў мы ўжо зрабілі.

**– Алесь, ты з сябрамі часта бываеш у фальклорных экспедыцыях у розных кутках краіны. Што цябе больш за ўсё захапляе ці ўзрушвае пад час сустрэч з вясковымі выканаўцамі фальклору?**

– Многія фальклорныя песні ў розных раёнах Беларусі выконваюцца бывае зусім па-рознаму. Гэта натуральна і добра. Бо кожны вясковец дадае да песні сваё пачуццё і разуменне. Калі гэта вывучаеш, то адчуваеш, што беларусы – вельмі пявучы народ. Не раз прыходзілася чуць ад расіянаў з памежжа, што суседзі-беларусы такія цікавыя песні спявалі, так весела танчылі. Напрыклад, кракавяк ці падыспань... Гэтыя звесткі і музыка павінна захоўвацца і існаваць ў сённяшніх рэаліях. Тады будзе развівацца культура, у людзей адродзяцца жыццёвыя прынцыпы і пазіцыі.

**– Ці задумваецца гурт «Znich» над ідэяй свайго чарговага канцэпта?**

– Было б вельмі добра зрабіць каляндарны альбом: з калядным, купальскімі, вяснавымі, дзядоўскімі песнямі. Гэтая ідэя няхай і застанецца на наступны альбом.

Хочацца больш дасканала, у сваёй стылістыцы, трансфармаваць гэтыя песні, зрабіць іх апрацоўкі па каляндарнаму колу. Гэта будзе запатрабавана.

**Гутарыў**
**Анатоль Мяльгуй**

## Імпрэзы

*18 снежня*
*ў 19 гадзін*
у канцэртнай залі
«Мінск»
Вялікае шоу!
**«Святы вечар»**
Беларускі
вытворца напояў
з 1993 года
ВКТ АА «БЕЛПІ»
*прэзентуе*
*супольны музычны*
*праект*
удзельнічаюць:
**Н.Р.М., КРЫВІ,**
**З.Вайцюшкевіч,**
**В.Шалкевіч,**
**А.Памідораў**
*Тэл. для даведак:*
*649-08-88, 766-24-25*

Падарожжа ў Пінск

ЗБМ «Беларускі Шлях» запрашае на гістарычнае падарожжа ў Пінск, адзін з найпрыгажэйшых гарадоў Беларусі з заездам у Клецак.
Вы маеце выдатную магчымасьць пагладзець цудоўныя помнікі архітэктуры гораду:
Калегіюм езуітаў у стылі барока
Касьцёл і кляштар францішканцаў,
Касьцёл Карла Барамэуша 1770-1782 гг.
Позьнебарочны палац ,
Касьцёл бэрнардынцаў,
Старая гарадзкая забудова 19 ст.
У Клецку:
Касьцёлі кляштар дамініканцаў 17 ст.;
Рэшткі кальвінскага збору 16-17 стст.
*Вандроўка адбудзецца 14 сьнежня*
Вядзе вандроўку краязнаўца
Антон Астаповіч
Кантакты:
232-54-58;
8-029-622-57-20 (Зміцер)
264-12-38;
8-029-776-26-35 (Павал)

## Купалавы чытанні



Штотыдзень
у нядзелю
а 14-й гадзіне
каля помніка паэту
(парк ля цырка)

# Схаваная выява





У галерэі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта адкрылася выстава «Схаваная выява».

Аўтары выстаўленых ў работ – Уладзімір Міцічкін, Дзмітрый Мядзьведзька, Аляксандр Асташка, Уладзімір Гардыка, Уладзімір Жукаў, Вадзім Кошкін.

Культурная акцыя прысвечана «легалізацыі» мастацкіх работ значнай групы асобаў, чый творчы патэнцыял ў бягучы момант схаваны ад грамадскасці ці рэдка звяртае на сябе ўвагу. Гаворка ідзе аб людзях з некаторымі адхіленнямі псіхікі, для якіх творчасць з'яўляецца ўнутранай патрэбай, часта – магчымасцю вырашыць унутраныя супярэчнасці і праблемы стасункаў са знешнім светам.

З прычыны нестандартнага ўспрыняцця і бачання, работы гэтых людзей маюць асаблівую выразнасць, часта арыгінальныя па скарыстаных (іншым разам – вынайдзеных) выразных сродках і тэхнічных прыёмах. Таму яны цікавыя не толькі для спецыялістаў-мастацтвазнаўцаў, але і для шырокай публікі.

Гэтыя творцы не ўваходзяць і не могуць увайсці ў склад афіцыйных творчых аоганізацыяў і саюзаў, і вытанчанасць іх успрыняцця і арыгінальнасць ракурсаў погляду – толькі іх індывідуальная ўласнасць і багацце.



Мае важнасць і рэабілітацыйны аспект выставы – пазітыўны эффект выстаўлення творчых работ шырокаму гледачу, эффект патрэбнасці такой работы, прызнанне яе вынікаў, безумоўных мастацкіх вартасцяў.

«Арт-тэрапія» за мяжой – адзін з метадаў аздараўлення душэўных адхіленняў, і выстаўная дзейнасць займае сярод іх адпаведнае немалое месца.









## Геній – заўжды Дзівак для стандартызаваных

У сталічным Палацы мастацтва прайшла выстава, прысвечаная 150-годдзю з дня нараджэння Вінсэнта Ван Гога. У экспазіцыі былі работы беларускіх, расійскіх і літоўскіх мастакоў. Чаму яго шануюць мастакі?

### Ён не прадаваў карціны...

Многія з сям'і Ван Гогаў цікавіліся жывапісам іараблялі на продажы твораў мастацтва. У 16 год па сямейнай традыцыі Вінсэнт уладкаваўся у мастацка-вытворчую фірму, якая належала аднаму з яго сваякоў. Але гандаль ішоў не вельмі ўдала, і ў хуткім часе хлопца звольнілі. Ён шукаў занятак, які б адпавядаў яго тэмпераменту. Нарэшце даверыўшы фарбам, пэндзлям і каларытам свой ўнутраны свет, Ван Гог захапіў сучаснікаў і нашчадкаў. Сур'ёзна займацца жывапісам Ван Гог пачаў у 28 гадоў. Урокі малюнку яму даваў муж яго стрыечнай сястры, вядомы на той час мастак Антон Маўвэ. Пад яго кіраўніцтвам Вінсэнт намаляваў свае першыя акварэлі і работы алеем. У хуткім часе серыю малюнкаў з



краявідамі Гаагі у Вінсэнта набыў яго дзядзька. Але своеасаблівая мастацкая манера, якая ўсё больш і больш выяўлялася ў яго творах, не садзейнічала гандлю яго карцінамі.

Вялікая колькасць аўтапартрэтаў, пакінутых Ван Гогам, была зроблена не толькі з-за імкнення аналізаваць сябе. Мастаку падабалася маляваць людзей. Нават у псіхіятрычнай клініцы, дзе ён неаднаразова бываў, яго захапленне выліваецца ў партрэты дактароў («Партрэт доктара Рэя», «Партрэт доктара Гашэ»), паштальёнаў («Партрэт Жозэфа Рулена»), сялян, гаспадыні кавярні і г.д.

### «Сланечнікі»

Ван Гог меў складаныя стасункі з жанчынамі. У рэшце ніводная так і не стала яго музай. Крыніцай натхнення быў навакольны свет. Прырода Праванса, пейзажы, жніво ў свеце яркага сонца – ўсё гэта нараджала творчыя задумы, якія ён рэалізаваў, малюючы з натуры.

Малодшы брат Вінсэнта Тэо, у адрозненне ад мастака, быў даволі паспяховым прадпрымальнікам. Дзякуючы Тэо, карціны Вінсэнта ўпершыню былі паказаны на пятай выставе Салона Незалежных у 1889 г. у Парыжы, дзе звычайна выстаўляліся імпрэсіяністы. Ван Гог атрымаў станоўчую адзнаку.

Вінсэнта натхніў поспех. Аднак перыяды высокай творчай актыўнасці суправаджаліся абвастрэннямі хваробы і адчаю.

### Чаму ён адрэзаў вуха...

Мастак Поль Гаген быў напэўна адзіным сябрам Вінсэнта. 28 кастрычніка 1888 года Гаген прыехаў у Арль, дзе працаваў Вінсэнт, і пасяліўся ў яго «жоўтым доміку». Аднак паміж мастакамі з часам пачалі абвастравацца непаразуменні. Тычыліся яны збольшага пытанняў мастацтва. Аднойчы ў кавярні Ван Гог кінуў стакан з абсэнтам у Гагена. Гэта стала пачаткам разладу паміж сябрамі. Гаген вырашыў з'ехаць, а Вінсэнт па агульнапрынятай версіі, усхваляваны тым, што адбылося, адрэзаў сабе правае вуха.

Аднак ёсць і іншае меркаванне. Версія, што Вінсэнт пакутваў на захворванне «сярэдняга вуха», здаецца не менш верагоднай. Гэтая хвароба ў тыя часы не дыягназавалася. Суправаджаецца яна невыносным болем. Гэта ў некаторай ступені тлумачыць і тыя «галасы», пра якія ён неаднаразова пісаў у сваіх лістах да брата.

«Аўтапартрэт з перавязаным вухам» Ван Гог намяляваў адразу пасля вяртання з клінікі ў майстэрню. Партрэт – сведчанне не толькі фізічнага стану мастака, але таксама захавання выдатнага мастацкага майстэрства.

### Насуперак часу

Ніхто з сучаснікаў не быў падобны на Ван Гога. Імпрэсіяністы перавярнулі свет класічнага мастацтва. А ён перавярнуў свет імпрэсіяністаў. Магчыма таму яго творачасць апярэдзіла прызнанне. Ван Гог крытычна ставіўся да сваіх твораў. «Зорная ноч», створаная ў 1889 годзе, – карціна, якая сёння вядомая па ўсім свеце. Але сам Вінсэнт быў расчараваны ў ёй. Яму не падабалася, што там няма «моцнай волі і глыбокіх рысаў, таму яна не пра што не гаворыць».

XX стагоддзе зняло такія высокія патрабаванні, якія сам да сябе прад'яўляў Ван Гог. Такіх як ён сталі называць «дзівакамі» і «ідэалістамі». У сярэдзіне мінулага стагоддзя вобразы, створаныя Ван Гогам, сталі прадметам поп-арту.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

 



# Марыя Магдалена

Марыя Магдалена Завіша – мабыць, адзіная з жанчын магнацкага паходжання, якая адчула свае беларускія карані і паспрыяла, наколькі гэта было ў яе сілах, станаўленню беларускай свядомасці. Таму ёсць пэўная недакладнасць і нават несправядлівасць, што ў нашай гістарычнай публіцыстыцы яна ўзгадваецца пад прозвішчам свайго другога мужа – князя Радзівіла, і маладасведчаны чытач ці слухач успрымае гэтую дзеячку як прадстаўніцу рода Радзівілаў. На жаль, ні ў 19-м, ні ў 20-м стагоддзі Радзівілы не высунулі са сваіх шэрагаў асобы, здольнай павярнуцца да беларускіх праблемаў і хоць крыху выправіць грахі ранейшай абыякавасці роду да культуры народа, з працы якога яны жылі некалькі стагоддзяў. Цалкам спаланізаваныя, яны не здолелі ўсвядоміць ні сваёй мінуўшчыны, ні сваёй магчымай новай высокароднай ролі, калі абставіны цалкам змяніліся.

Бацька Марыі Магдалены паходзіў са старадаўняга беларускага роду Завішаў-Кіжгайлаў і вызначыўся як археолаг і этнограф. Яму належалі маёнткі Жарноўцы і Кухцічы ў Ігуменскім павеце, і дзіцячыя гады яго дачкі аказаліся звязаныя з гэтымі мясцінамі. Збіраючы этнаграфічны матэрыял, ён карыстаўся беларускай мовай, дачка пераняла ад яго цікаўнасць да роднай даўніны і павагу да людзей. Маці паклапацілася даць дачцы еўрапейскае выхаванне (па французска-англійскіх узорах), і ў выніку атрымалася добра адукаваная дасведчаная асоба без тых саслоўных прымхаў, якія звужваюць поле зроку.

У 1881 годзе 20-гадовая Марыя Магдалена ўзяла шлюб з закаханым у яе 49-гадовым графам Людвігам Красінскім. Неўзабаве заўчасная смерць бацькі зрабіла яе ўладарніцай Кухцічаў і Жарнаўцоў, што, варта гэта падкрэсліць, забяспечвала яе самастойнасць у рашэннях. Муж быў вядомы гаспадарнік, справы ў яго ішлі добра, яны любілі адзін аднаго, былі шчаслівыя з дачкі Людвікі, але графу не быў наканаваны доўгі век – на пачатку 1895 года ён памёр.

Пасля смерці мужа Марыя Магдалена вырашыла ахвяраваць частку багацця на філантрапічную дзейнасць. Асаблівую ўвагу яна звяртала на дзяцей-сірот, для якіх фундавала шэраг прытулкаў. Адначасова яна выступіла фундатаркай шпіталя Таварыства дабрачыннасці ў Мінску і прытулку для бедных Маўрыцыя Чарноцкага. У гэты час яна выехала ў падарожжа па Еўропе. Марыя Магдалена наведала Італію, Францыю і пераплыла ў Англію. Вынікам англійскай вандроўкі стала знаёмства з князем Мікалаем Радзівілам, які быў за яе маладзейшы на 19 гадоў. Энергічны, смелы, эксцэнтрычны ў паводзінах, з самастойным светапоглядам малады князь прывабіў яе. Мікалай Радзівіл шмат падарожнічаў, быў удзельнікам англа-бурскай вайны на баку англічан. У якасці добраахвотніка ён прымаў удзел у расійска-японскай вайне. Знаёмства перарасло ва ўзаемнае каханне і завяршылася шлюбам.

Польскія арыстакратычныя колы ўспрынялі гэты шлюб як выклік: мала таго што пара супярэчыла «правілам» – маладая была ўдвая старэйшая за мужа, дык князь яшчэ меў за сабой славу «хлапамана» і русафіла. «Свет» абвясціў яму байкот. Таму сужонцы вырашалі парваць з польскім «светам». Марыя Магдалена нават пазбягала размаўляць на польскай мове. Трымаючыся гэтага прынцыпу, яна ў 1912 годзе на старонках газеты «Мінскае рускае слова» аб'явіла: «Лічу сябе беларускай, паходжання літоўскага. Як і муж мой, за польку сябе не лічу».

Маладыя пасяліліся ў Кухцічах, у сядзібе, пабудаванай яшчэ прадзедам Марыі Магдалены. Сядзіба мела выдатны палац, два немалыя флігелі, побач стаяў былы пратэстанцкі храм, збудаваны яшчэ ў 16 стагоддзі тагачасным уладальнікам маёнтка Кавечынскім, знакамітым стваральнікам нясвіжскай друкарні. Мікалай Радзівіл захапіўся збіраннем фальклору. Вандраваў па наваколлі, запісваў народныя паданні, абрады, песні і свае запісы адсылаў у Геаграфічнае таварыства. Гэта хутчэй быў модны тады занятак, калі ўзгадаць плён Ельскага, Раманава, Шэйна і мноства менш вядомых этнографаў і краязнаўцаў. Нязвычным жа была падтрымка Марыяй Магдаленай беларускіх палітычных колаў розных напрамкаў. У вёсках Кухцічы, Каменка, Узда яна адкрыла і фінансавала беларускія школкі. Дапамагала бібліятэцы беларускага гуртка пры Духоўнай Акадэміі ў Пецярбургу.. Аказала фінансавую дапамогу ў будаўніцтве трох будынкаў інтэрната семінарыстаў у Вільні. А галоўнае – Марыя Магдалена падтрымала першыя перыядычныя беларускія выданні. Яна апекавала выдавецтва «Загляне сонца ў наша ваконца» ў Пецярбургу, за яе грошы былі надрукаваны першыя кнігі Максіма Багдановіча і Канстанцыі Буйло. Вось што занатаваў пра гэта ў 1913 годзе яе адвакат Гаўрыла Царык: *«Яна дадала, што ёй хацелася б неяк рэальна адзначыць яе сімпатыі да справы, да якой я праяўляў вялікую зацікаўленасць – да беларускага кніжнага выдавецтва. Яна ўзяла з мяне чэснае слова захаваць усё гэта ў строгай таямніцы і даверыць толькі нямногім надзейным людзям з Беларускага выдавецкага таварыства. Нагадала пра кампанію, якая ўжо вялася супраць яе ў польскіх колах Варшавы за здраду польскім інтарэсам і польскай нацыі. Мая гутарка і сустрэча з княгіняй Магдаленай закончылася тым, што яна ўручыла мне чэк на 20.000 рублёў для падтрымкі беларускага выдавецтва Вільні з тым, каб я стаў удзельнікам выдавецкага таварыства і паведамляў ёй зрэдку аб рабоце і развіцці беларускай справы».*

Наступны год цалкам змяніў лёс мільёнаў людзей і лёс Марыі Магдалены. У першыя дні сусветнай вайны князь Радзівіл уступіў у расійскую армію, а праз чатыры месяцы загінуў у ходзе баёў ва Усходняй Прусіі. Удава большы час цяпер жыла ў сваім мінскім доме па вуліцы Захар'еўскай, дзе сустракалася з Раманам Скірмунтам, Вацлавам Іваноўскім, Аляксандрам Уласавым, братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі. Марыя Магдалена як вядомая фундатарка беларускіх культурных праектаў адыгрывала ролю пасярэдніка паміж палітычнымі дзеячамі розных поглядаў.

У 1915 годзе яна стала ганаровым сябрам Цэнтральнага камітэта Літвы па справе дапамогі інвалідам вайны. У 1916 годзе княгіня Магдалена ахвяруе брыльянтавае калье на заснаванне ў Рыме духоўнай семінарыі для беларускіх грэка-каталікоў (уніятаў). За гэтую справу ўзяліся ксяндзы Францішак Будзька, Лукіян Хвецька і пра-



фесар духоўнай семінарыі ў Санкт-Пецярбургу Фабіян Абрантовіч, які прыняў калье на захаванне. Гісторыя з гэтым калье набыла ў далейшым цалкам дэтэктыўны характар: семінарыю стварыць не змаглі, грошы неяк распаўзліся, прычым не на тое, што было важна для Марыі Магдалены. Тут і знешнія абставіны не спрыялі: а.Будзька памёр у 1920 годзе, а. Хвецька ў 1923 годзе патрапіў пад бальшавіцкі арышт. Абрантовіч апынуўся ў Пінску, дзе стваралася каталіцкая семінарыя. Кальве было прададзена ў Навагрудку за 15.000 даляраў. З іх 10.000 пайшлі на семінарыю, а 5.000 – на набыццё нерухомасці ўНаваградку, а потым – на патрэбы кляштара марыянаў у Друі. Гісторыя гэта надта заблытаная, але галоўнае для нас тут – шчырая пазіцыя Марыі Магдалены датычна беларускай справы.

У 1918, пасля 25 сакавіка, яна абвясціла сябе грамадзянкай Беларускай Народнай Рэспублікі, што ў сітуацыі дзяржаўнай неакрэсленасці, нежадання немцаў прызнаваць новае ўтварэнне было ўчынкам вялікага значэння, пэўным узорам для землеўладальнікаў. Само імя Марыі Магдалены княгіні Радзівіл з графскага роду Завішаў у гэтай сувязі працавала як сімвал. Напрыканцы года, калі немцы саступілі месца часткам Чырвонай Арміі, княгіня выехала ў Варшаву, дзе намагалася прывесці да ўтварэння уніі паміж беларускімі і польскімі землямі. У 1919 годзе Марыя Магдалена паспрабавала вярнуцца на Беларусь, але ўлады ёй адмовілі. Няўтульна ёй было і ў Польшчы, дзе квітнела шавіністычная ідэалогія. У 1922 годзе Марыя Магдалена перабралася ў Коўна. Урад Літвы за дабрачынную дзейнасць ушанаваў Марыю Магдалену ордэнам «Вялікі крыж Гедзіміна». Пазней яна пераехала ў Германію. Працягваць значную матэрыяльную дапамогу эмігрантам яна ўжо не мела магчымасцяў. У 1931 годзе яна адмовілася падтрымліваць грашыма кляштар у Друі. Марыя Магдалена пісала: *«Большасць усяго, што я мела, знаходзіцца ў бальшавікоў... Тую драбніцу, што маю ў Польшчы, яшчэ зменшылі праз падаткі, дары для Бацькаўшчыны, рэквізіцыі, і, што яшчэ горш, праз несумленную адміністрацыю... А тое, што маю з даходаў, пасля адлічэння працэнтаў за даўгі, выплаты пенсій старым працаўнікам альбо іхным удовам хапае мне толькі на вельмі сціплае жыццё ў кляштары на вёсцы. Таму больш прашу ад мяне нічога не спадзявацца, бо нічога больш даць не магу».*

На пачатку 30-х гадоў у Баварыі развіўся фашысцкі рух. Марыя Магдалена ставілася да нацыстаў з пагардай і ў 1932 годзе перабралася ў Швейцарыю. Яна мела ўжо паважаны век, ёй было 72 гады, і вырашыла пайсці ў манастыр. Абіраючы сабе месца, яна спыніла свой выбар на кляштары дамініканак з горада Фрыбург, вядомым цвёрдасцю свайго статуту. Аднак і за мурамі кляштара Марыя Магдалена не перастала займацца дабрачыннасцю. У 1935 годзе яна здзейсніла акцыю, якая выклікала выбух незадавальнення і крытыкі сярод польскай арыстакратыі і ў польскай прэсе, – фундавала грошы на пабудову ў Варшаве дзвюх школак для габрэйскіх дзяцей. Пры тагачасным уздыме антысемітызму гэта быў паказальны выклік.

Марыя Магдалена горасна перажывала пачатак Другой сусветнай вайны, а потым весткі аб перамогах нямецка-фашысцкіх войск пасля нападу на СССР. Яна ўважліва сачыла за развіццём падзей, за барацьбой на радзіме, радавалася, калі вызваленне ад нямецкіх захопнікаў прыйшло на беларускія і польскія землі. Лёс не даў ёй дажыць да таго светлага дня, калі яе мары спраўдзіліся і карычневая нечысць была знішчана. Яна яшчэ малітвай за перамогу, за божую літасць да змагароў сустрэла 1945 год, але пражыла ў ім толькі тыдзень – сэрца Марыі Магдалены перастала біцца 6 студзеня.

Амаль нічога не захавалася з часоў яе жыцця ў Кухцічах – толькі будынак флігеля ды стары храм. Няма тых беларускіх школак у вёсках і тых габрэйскіх школак у Варшаве. Але першыя кнігі Максіма Багдановіча і Канстанцыі Буйло, якія ўбачылі свет праз ейны клопат, перавыдаюцца і служаць Беларусі. І ейнае ўсведамленне адказнасці перад сваім народам сёння служыць за ўзор для тых, хто адчувае сябе вырваным з роднай глебы і хто не хоча быць перакаці-полем на абшарах сваёй зямлі пад чужым сцягам.

**Пётр ШУМЕЙКА**





 

# 1863 год: Оскар Авейдэ

22 жніўня 1863 года ў Вільні быў арыштаваны нейкі немец з Варшавы, бухгалтар Людвік Шмідт. Арыштаваны ён быў з той прычыны, «что он прибыл сюда с тайной неблагонамеренною целью... менее чем в месяц прожил 152 рубля из бывших при нём 170-ти... четыре первых дня жил в гостинице «Poznanska», потом снял квартиру в доме Гродковского на Скоповке, оттуда переехал в дом Шаткевичевой в Никольском заулке, при чем каждый раз платил вперёд да ещё нанял слугу за 9 рублей в месяц... по словам Шмидта, он прибыл в Вильно найти место приказчика или бухгалтера, что представляется весьма странным, ибо в Вильно платят не более 20 рублей, а в Варшаве выходит в пересчёте 70 рублей и более... отсюда вывод, что Людвик Шмидт выдаёт себя за другого... для выяснения личности его сделан запрос варшавской полиции...»

(А прыехаў у Вільню той «Людвік Шмідт» 8 жніўня 1863 года – канспірацыя яго трывала толькі два тыдні, і пазналі яго як з ног да галавы чужога: багаты выдаваў сябе за беднага, але бедны варшавян аказаўся... багацейшы заможнага віленчука – і першы швейцар і дворнік здаў таго «Шмідта» віленскай паліцыі).

У Варшаве такіх запытаў пра такіх «шмідтаў» мелі тысячы – і ніхто не спяшаў, бо былі важнейшыя справы. А сам «Людвік Шмідт» сядзеў і маўчаў. Сядзеў на Лукішках – верасень, кастрычнік... і да канца сакавіка. Нарэшце 2 красавіка 1864 года варшаўскі обер-паліцмайстар заведаміў віленскіх калегаў, што гэты «Людвік Шмідт» прыўласціў чужую біяграфію, а ад сапраўднага Людвіка Шмідта ў яго толькі пашпарт – а той Людвік яшчэ ў лютым 1863 года з Варшавы «ушёл в смятении», пры тым цікава, што бацька яго, гродзенскі мотаранін Альфрэд Шмідт, арандатар «апеки Баграновича» побач з Фарным Касцёлам, трымаў канспіратыўную кватэру, за што даўно арыштаваны і «выслан на житьё в Сибирь»...

(«Людвік Шмідт», па сямі месяцах Лукішак, дурыў контрразведцы галаву яшчэ тры тыдні – і толькі калі арыштавалі Каліноўскага, прызнаўся, што ён... Оскар Авейдэ, загадчык архіва і канцыляры падпольнага Жонду ў Варшаве. Пры гэтым Авейдэ заявіў, што будзе «сотрудничать со следствием» толькі пра тых калегаў, хто ўжо асуджаны ці будзе асуджаны на смерць, што ён, Авейдэ, не просіць сабе ласкі і што «сотрудничает» з контрразведкай... выключна для Гісторыі і для архіва ).

Пра сябе ён паказаў наступнае:

«...27 лет, уроженец Мариямполя, сын судейского чиновника Эдуарда Авейдэ и Паулины из Рутковских. Живут в Сувалках, в собственном каменном двухэтажном доме; отец патрон (старшы адвакат. – **А.Ч.**) Гражданского Губернского Трибунала в Сувалках, имеет четырёх братьев и сестру:

Адам, 30 лет, служит в Сувалках в Губернском Правлении, женат;

Артур, 25 лет, физико-математический факультет Санкт-Петербургского Университета; в феврале 1863 года ушёл в мятеж, служил у Павлевского;

Эдуард, 22 лет, Главная Школа в Варшаве, ушёл в мятеж, служил с братом у Лянчевича;

Паулина, 18 лет, девица, живет в Сувалках в отцовском доме.

Лютеранин. Немец. Гимназию окончил в Сувалках в 1854 году. Окончил юридический факультет в Санкт-Петербурге в 1858 году. Кандидат права. Далее как адвокат практиковал в Варшаве. В июле 1859 года по рекомендации Главного Попечителя С.-П. Университета генерала Делянова и за счёт казны Царства Польскаго уехал за границу для продолжения юридического образования, где был более двух лет – 0,5 года Берлин, 1 год Гейдэльберг, 0,5 года Париж: для изучения практики французского правосудия с целью будущей работы в комиссии для подготовки реформы («судовая рэформа 1866 года». - **А.Ч.**)...».

«... вернулся 30 октября 1861 года, и более двух месяцев был в Сувалках. Потом в Варшаве, апликант в суде Исправительной Полиции и Уголовном, дома занимался книгами (пісаў дактарат. – **А.Ч.**). Жил в доме Замойскаго на углу Сенаторской и Жабей. Под судом и следствием не был. Имущества не имею».

Следства вялі лепшыя мураўёўскія афіцэры – палкоўнік Лосеў і палкоўнік Сямёнаў. Паколькі Авейдэ заявіў, што ён будзе гаварыць толькі тое, што будзе гаварыць, то... класічных допытаў «пытанне – адказ» не было. Авейдэ пісаў мемуар: што хацеў і як хацеў. Пры гэтым ад самога пачатку выразна патлумачыў, чаму ён выбраў падполле замест бліскучай сталічнай кар`еры і... чаму гэта з багатай сям`і сувалькаўскіх немцаў-лютаранаў чатырох з пяці братоў пайшлі ў паўстанне да католікоў-палякаў?!

«... все мои действия проистекают из любви к своему Отечеству – Польше, из задушевного горячего желания исторгнуть её из-под владычества Русского Правительства и совокупными целого народа силами сделать Польшу свободным самостоятельным Государством...

Насколько образование моего ума и сердца позволяло мне рассуждать об отношении моего Края, я понимал и понимаю, что самобытность Польши добро не только для самой Польши, но и для всей Европы, не исключая и Россию...».

Оскар Авейдэ быў накіраваны ў Вільню, каб асабіста ўбачыць, як выглядае паўстанне на Літве. Таму што ў самой Польшчы партызанская вайна трывала з канца студзеня «да глыбокай восені (!) 1863 года». А на «Літве» (на Жамойці і Беларусі) вясной 1863 года выступілі толькі брыгады Серакоўскага і Мацнявічуса на правым беразе пад Коўнам і брыгада Нарбутта на правым беразе пад Гроднам. Аднак пратрымаліся месяц.

3 мая 1863 года ваявалі паручнік Врублеўскі ў раёне Саколка – Крынкі і паручнік Лянкевіч (не блытаць з генералам у Польшчы!) у раёне Слонім – Баранавічы – падпалкоўніка Траугута пад Кобрынам... і адразу адступіў у цэнтральную Польшчу. Двойчы «Літоўскі Жонд» браў з Варшавы немалыя грашовыя пазыкі: раз «белы» Агатон Гіллер, другі раз «чырвоны» Вікенцій Каліноўскі... І як канцы ў ваду. У Вільні, Гродне і Мінску быў адзін «мураўёўскі тэрор» і перапоўненыя турмы.

У Вільні Авейдэ меў знайсці Каліноўскага праз кватэру нейкага Кабылінскага - аказалася, той арыштаваны (брат Кабылінскага камандаваў пад Ломжай брыгадай у тысячу чалавек (!), загінуў у баі... і на ім знайшлі дакументы). У гатэль да Авейдэ праз суткі... прыйшоў сам Каліноўскі - таго папярэдзіла служанка Кабылінскага.

Наступнае спатканне было на кватэры самога Каліноўскага, дзе дыктатар не жыў: кватэра была завалена падпольнай перапіскай, якую ніхто даўно не разбіраў і не адказваў. Са свайго штаба «Каліноўскі здолеў паказаць аднаго Малахоўскага, «начальніка Вільні»» – той таксама не меў ні сеткі ў месце, ні сувязі з Лесам.

Каліноўскі жыў на прадмесці Вільні (куды паліцыя не любіла заходзіць) у доме бацькоў свае дзяўчыны Марыі Ямант. Гэтаксама, у свае дзяўчыны, канспіраваўся Малахоўскі...

«... я потребовал подробных объяснений от Калиновского и Малаховского, - піша далей Авейдэ. – От них я узнал, что все в самом плачевном состоянии, все разорвано и перепутано. Больше половины чиновников Административных не доставило. Начальников воеводств не было ни одного. Комиссаров тоже по большей части. Повстанческие отряды в самом жалком положении и, одним словом, я узнал, что при таком состоянии дел восстание не переживет зимы...

А потому я счёл нужным преобразовать всё изнова и положить прочное основание, создав новую организацию, совершенно соответствующую требованиям минуты; отрядам же повстанческим я счел необходимым дать приказ разойтись по домам – или перейти в Царство Польское до дальнейшего распоряжения...»).

(Размова з Каліноўскім была вострай, бо Каліноўскі быў катэгарычны супраць каб берагчы людзей і збіраўся «ваяваць да апошняга касінера». Праз два дні (!) Авейдэ быў арыштаваны, а Каліноўскі ... так і жыў у Ямантаў да зімы; пры гэтым загад сябры Жонду ў Варшаве пра канец паўстання і пераарганізацыю падпольнай сеткі ў Лес перададзены не быў).

Палкоўнік Лосеў і палкоўнік Сямёнаў не дапытвалі Авейдэ пункт за пунктам, але давалі яму выгаварыцца. Парадокс быў у тым, што адзін з кіраўнікоў варшаўскага Жонду... амаль нікога не ведаў у Вільні, а сам ніколі раней не быў у Вільні. Так што пры ўсім жаданні ніякіх «фактаў» і «прозвішчаў» выдаць не мог. Афіцэраў рускай контрразведкі найперш




цікавіў Каліноўскі, яго псіхалагічная характарыстыка як непаляка: чым адрозніваўся «віленскі дыктатар», у чым праяўляўся яго «ліцьвінскі сепаратызм», адкуль гэта, што гэта такое і наколькі гэта перспектыўна? Цікава, што рускія афіцэры (і сам граф Мураўёў!) больш паважней ставіліся да беларускай Muzyckaj Praйdy, чым польскія калегі Каліноўскага. Той жа Авейдэ сцвярджаў, што «ліцьвінскі сепаратызм» Каліноўскага праяўляўся выключна ў фінансавых і кадравых справах; наш дыктатар быў хваравіта зайздросны і не пускаў варшавякаў на сваю віленскую кухню. Але Оскар Авейдэ лічыў, што паколькі Каліноўскі праявіў сябе як слабы арганізатар і практык, то яго ідэалогія... не мела ўвогуле практычнага значэння. Нічога цікавага для Мураўёва Авейдэ не сказаў. Адпаведна і да яго ў графа прапала цікавасць – і Авейдэ пад канвоем адаслалі Варшаўскай Следчай Камісіі. На шыбеніцу ён не трапіў, абышоўся высылкай, а нават дажыў да амністыі і эміграцыі. (У 1863 годзе загінула трох яго братоў; праз два гады – маці).

Запіскі Оскара Авейдэ праз Вільню і Варшаву невядома якім шляхам трапілі ў Нацыянальны архіў Беларусі ў Гродне.

**Алесь ЧОБАТ**

# Гістарычна-краязнаўчае таварыства «ЭТНА»

Гістарычна-краязнаўчае таварыства «ЭТНА» БДУ культуры было створана ў красавіку гэтага года. Пакуль яно мае статус універсітэцкага грамадскага аб'яднання, дзейнасць якога накіравана на: развіццё і вывучэнне гісторыі, прапаганду культурнай спадчыны, пашырэнне самасвядомасці розных слаёў насельніцтва.

У сценах універсітэта «ЭТНА» арганізавала некалькі выстаў фотаздымкаў архітэктурных помнікаў Беларусі, правяло семінары і сустрэчы з удзелам навукоўцаў, ладзіла паказ навуковых фільмаў па гісторыі Беларусі. Студэнтамі універсітэта, якія ўваходзяць у «ЭТНА», праведзены збор подпісаў на кансервацыю Крэўскага замка. Зараз плануецца наладзіць пэўную працу па прыборцы старажытнага мястэчка. Таму «ЭТНА» запрашае ўсіх ахвотных далучыцца да гэтай ініцыятывы.

Значная праца вядзецца ў справе азнаямлення школьнікаў малодшых і сярэдніх класаў з культурнай спадчынай Беларусі. У школах Мінска ўжо распачаліся краязнаўчыя факультатывы. Дзеці з дапамогай удзельнікаў таварыства вывучаюць побыт, прыроду, помнікі гісторыі, культуры і архітэктуры Беларусі. Плануецца стварыць у адной з школ «Музей Вялікага княства Літоўскага».

Значнай падзеяй стала правядзенне свята «Каранацыя Міндоўга - 750 год», якое прайшло ў канцы лістапада ў сценах універсітэта культуры. На жаль, вялікая колькасць людзей не ведае не толькі аб каранацыі, але і ўвогуле пра Міндоўга. Што гэта за гістарычная асоба? Якое ён мае дачыненне да станаўлення сярэднявечнай беларускай дзяржавы? Гэта было пацверджана сацыялагічным даследаваннем. Былі апрошаны 100 чалавек менчукоў, якім трэба было адказаць на 3 пытанні: Ці ведаеце вы, хто такі Міндоўг? Ці ведаеце вы, што ён быў адзіным каралём ВКЛ? Ці ведаеце вы, што ў гэтым годзе адзначаецца 750-годдзе з дня каранацыі?

Апытанне праводзілася ў розных раёнах Мінска, а большасць апытаных складала студэнцкая моладзь. Вынікі аказаліся даволі сумнымі. На пытанне «Ці ведаеце вы, хто такі Міндоўг?» станоўча адказала 44% апрошаных (56% не ведае ўвогуле гэту асобу).

На пытанне «Ці ведаеце вы, што ён быў адзіным каралём ВКЛ?» станоўча адказала толькі 14% ад усіх апрошаных. І, нарэшце, на апошняе пытанне даследавання станоўча адказалі 5% ад усіх апытаных. Для астатніх 95% гэта было сапраўднае адкрыццё, яны ўпершыню чулі пра юбілей.

Менавіта таму гістарычна-краязнаўчае таварыства «ЭТНА» з'явілася ініцыятарам святкавання гэтай важнай падзеі - каранацыі Міндоўга. Адбылася шэраг мерапрыемстваў, было прадстаўлена некалькі цікавых выстаў, якія раскрываюць вобраз славутага караля; цікавасць выклікала навуковая канферэнцыя. Акрамя таго, у Маладзёжным тэатры эстрады прайшло тэатралізаванае прадстаўленне самой каранацыі з удзелам рыцарскіх клубаў, сярэднявечнымі танцамі і святочным канцэртам.

Вялікае значэнне надае «ЭТНА» краязнаўчым вандроўкам па гістарычных мясцінах Беларусі. Мы



запрашаем усіх, хто зацікавіўся дзейнасцю таварыства, да супрацоўніцтва (тэлефоны для кантактаў 264-12-38; 234-15-84).

Давайце разам вывучаць і захоўваць нашу спадчыну!

**Павел КАРАЛЁЎ**

 



# Расія галасуе на загад Пуціна



У расійскую палітычную моду зноў увайшоў Уладзімір Жырыноўскі са сваімі ультранацыяналістычнымі прамовамі і ганебнымі манерамі. У папулісцка-нацыяналістычным трыумфе Жырыноўскі быў не адзінокі: у цэлым за нацыяналістаў было аддадзена больш за 20% галасоў. Дзве ліберальныя партыі, якія на мінулых выбарах набралі 14% галасоў , на гэты раз не здолелі перайсці нават 5-працэнтны бар'ер, неабходны для пропуску ў парламент.

Узлёт нацыяналістаў, свабоднае падзенне лібералаў, вялізная колькасцьвыбаршчыкаў, якія прагаласавалі без энтузіязму, але з пачуццём выкананага абавязку, «Як загадвае вялікі бос» - такі плён першага прэзідэнцкага тэрміна Уладзіміра Пуціна.

Выбары сталі і адлюстраваннем грамадскіх настрояў. Аднак палітыка Пуціна ўзмацніла тэндэнцыі да падпарадкавання грамадства дзяржаўнай уладзе і распаліла сацыяльную зайздрасць і нянавісць.

Былі прадпрынятыя меры, каб расчысціць шлях для прыхільнікаў «партыі ўлады», мясцовыя губернатары атрымалі сяброўства ў «Адзінай Расіі» і разам з ім загад мабілізаваць выбаршчыкаў у сваіх рэгіёнах, пакорлівыя суды выключалі непажаданых кандыдатаў з перадвыбарнай гонкі, падкантрольнае дзяржаве тэлебачанне руплівае асвятляла дзейнасць «партыі ўлады»

Каля 37 працэнтаў выбаршчыкаў зрабілі тое, што ім загадала дзяржава. Але старанні Крамля сыгралі на руку і Жырыноўскаму. Паколькі перамога «Адзінай Расіі» была гэтак прадказальная, уся перадвыбарная кампанія стала прэснай і бехзжыццёвай. Жырыноўскі са сваімі скандальнымі заявамі і блазнерствам аказаўся жаданай альтэрнатывай. Магчыма, ён агідны, але не быў нудны.

Ёсць і яшчэ адна больш важная прычына ўзлёту Жырыноўскага. Арышт нафтавага магната Міхаіла Хадаркоўскага абудзіў грамадскае незадаволенне несправядлівым размеркаваннем маёмасці ў Расіі. Людзі патрабуюць сапраўднага пераразмеркавання і помсты тым, кто \багацее. Урад, робячы нейкія крокі ў гэтым напрамку, не мае намеру, аднак, заходзіць надта далёка ў такой справе. Жырыноўскі ведае, як сыграць на падобных пачуццях. Не заціснуты ніякімі правіламі паліткарэктнасці, ён заклікае да арышту ўсіх магнатаў, і чым большы тэрмін пакарання ім дадуць - тым, па яго заявах, лепш, нават калі іх прысудзяць да расстрэлу.

Ён называе адзінага вінаватага ва ўсіх бедствах рускага народа: гэта нерускія нацыянальныя меншасці, уключна з выхадцамі з Каўказа. Ён ласціць пачуццё настальгіі па страчанай імперыі, сцвярджаючы, што расійская ваенная магутнасць і расійскае панаванне могуць адрадзіцца.

10 гадоў назад, калі Жырыноўскі атрымаў сваю першую буйную перамогу на парламенцкіх выбарах, многія расіяне палічылі гэта ганьбай. Тады падтрымка Жырыноўскага прыраўнівалася да безадказнага галасавання. У 1999 годзе яго партыя ледзьве прайшла ў Думу. Стваралася ўражанне, што палітычная кар'ера Жырыноўскага падыходзіць да фіналу. Але цяпер ён зноў вярнуўся, і на гэты раз вінаваціць у гэтым варта палітыку Пуціна. Болей за тое, цяпер у Жырыноўскага з'явіліся калегі - другая нацыяналістычная партыя. «Радзіма» прапаведуе ідэі, падобныя на ідэі Жырыноўскага. І нават лідэры «Радзімы» - такія ж эксцэнтрычныя фігляры, як Жырыноўскі.

Пуцін зрабіў выбар на карысць маргіналізацыі празаходняй ліберальнай эліты і адмовы ад прынцыпаў дэмакратычнай палітыкі. Ён вырашыў зрабіць упор на кансалідацыю сваёй падтрымкі сярод шырокіх народных мас, якім складана прызвычаіцца да словаў «канкурэнцыя» і «выбар» і якія адчуваюць сябе больш камфортна пад дзяржаўным кантролем.

Пуцін спадзяецца, што ў выніку створыцца найбольш зручная для яго сітуацыя - ён будзе кіраваць падпарадкаваным і апатычным народам.

**The Washington Post**

# Рагозін. Перамога настальгіі




Галоўнай асобай нацыяналістычнай плыні, багата прадстаўленай на выбарах у Думу, з'яўляецца сёння малады, дагледжаны Дзмітрый Рагозін. Са сваім блокам «Радзіма», партыйны спіс якога атрымаў на выбарах 9% галасоў, ён рэзка ўвайшоў у катэгорыю цяжкавагавікоў, адняўшы галасы не толькі ў камуністаў, але і ў прэзідэнцкай партыі «Адзіная Расія» і атрымаўшы ад лібера-ла Анатоля Чубайса ярлык «нацыянал-сацыяліста».

Шырока прадстаўлены ў СМІ 40-гадовы палітык прыцягваў увагу гледачоў і чытачоў. Адкінуўшы свае дыпламатычныя манеры (ён быў старшынёй камітэта па міжнародных справах папярэдняй Думы), Рагозін вёў кампанію пад лозунгам «На нары!» - скіраваным да канкурэнтаў, найперш з ліберальнага лагера, алігархам, «здраднікам Расіі» і «тэрарыстам».

Ён услаўляў «вялікую Расію», заклікаў жорстка дзейнічаць у Чачні, тармашыў ксенафобскія кашмары, пазіцыяніраваў сябе як чалавек, які заўсёды бяжыць туды, дзе цяжка быць рускім, а таксама рэаніміраваў савецкія інстынкты, заклікаючы вярнуць народу нарабаваныя багацці. У Маскве ў апошнія дні імя Рагозіна гучыць з частатой, якая сведчыць аб яго пасвячэнні ў лідэры. Ён нават зацьміў сваіх таварышаў па спісу – эканаміста-сацыяліста Сяргея Глазьева і генерала Валянціна Варэнікава, удзельніка путчу 1991 года.

Не сакрэт, што «Радзіма» – гэта адна з «прабіркавых» партый, народжаных Крамлём з мэтай адняць галасы ў камуністаў. Сваёй праграмай па экспрапрыяцыі багаццяў нафтавых алігархаў былы камуніст Глазьеў павінен быў спакусіць левы электарат, якому абрыдла савецкая рыторыка КПРФ. Аднак Рагозін – перабежчык з яшчэ адной «прабіркавай» структуры – «Народнай партыі», фінансуемай крылом былога КГБ у атачэнні Пуціна, – перагарнуў сітуацыю. Гавораць, што Крэмль загадаў сваім СМІ спыніць «Радзіму», якая пачынала заходзіць на электаральную тэрыторыю «Адзінай Расіі».

Ніколі яшчэ мода на нацыянал-патрыятызм не была такой карыснай, як у гэтую кампанію, калі яна распаўсюдзілася з сельскай мясцовасці і пралетарскай правінцыі на сярэднія гарадскія слаі, якія абралі сабе ў якасці трыбуна аднаго з «мажораў» (як называлі некалі дзяцей заможных маскоўскіх сем'яў).

Пасля заканчэння факультэта журналістыкі з дыпломнай працай на тэму «Псіхалагічная вайна ЗША супраць Кубы» Рагозін адразу ж паступіў на работу ў камсамол па міжнароднай лініі. Тыя часы, па яго ўласных словах, ён узгадвае з вялікай любоўю. Ён прайшоў шляхам такіх алігархаў, як Міхаіл Хадаркоўскі, які ў тыя ж гады ў камсамоле пачаў збіваць сабе капітал. Іх пакаленне – гэта пакаленне без прадузятасцяў. У разваленай імперыі для маладых апаратчыкаў, якія не верылі ў ніводную ідэалогію, адкрываўся безліч магчымасцяў. Стаць лібералам ці патрыётам было толькі пытаннем кан'юнктуры.

Рагозін укладае ў рэваншызм і цярпліва будуе сваю кар'еру, якая праз мноства маргінальных партый прымусіць яго нарэшце выйсці з настальгічнага падлеску і прыйсці ў залу Думы, а затым Страсбурга, дзе ён энергічна і часцяком у грубай форме адстойваў вайну ў Чачні. Аднак пры гэтым ён атрымаў павагу многіх еўрапейскіх калегаў, дэманструючы ім расіяніна заходняга ўзору, адукаванага і прафесійнага. Такога, як Уладзімір Пуцін, які, па яго словах, з'яўляецца яго палітычным кумірам і блізкім сябрам (чым ён ганарыцца) і ад якога Рагозін чакае прызначэння на пасаду міністра замежных справаў.

Кажуць, пры гэтым ён не забывае, што ўваходзіць у Крэмль трэба на паўсагнутых нагах – каб сваім двухметровым ростам не ўзвышацца над прэзідэнтам.

**La Stampa**

## Дадзеныя паралельнага падліку галасоў

На прэс-канферэнцыі лідэр КПРФ Генадзь Зюганаў агучыў атрыманыя камуністамі вынікі паралельнага падліку галасоў выбаршчыкаў на парламенцкіх выбарах. Па яго словах, было прааналізавана 15% афіцыйных пратаколаў выбарчых камісій, што, па сцвярджэнні Зюганава, дазваляе заявіць аб прыпісцы як мінімум 3,5 мільёнаў бюлетэняў для галасавання.

«Яўка выбаршчыкаў была не 56%, як заявіў Цэнтрвыбаркам, а 52,58%. Пан Вешнякоў прыпісаў як мінімум 3,5 мільёны бюлетэняў, каб падняць базу «Адзінай Расіі», - заявіў Зюганаў.

Па дадзеных камуністаў, вынікі атрыманы наступныя:

«Адзіная Расія» атрымала 33,1% галасоў (замест афіцыйных 37,1%)

КПРФ - 12, 73% (замест 12,7%)

ЛДПР - 11,46 (замест 11,6%)

«Радзіма» - 10,49% (замест 9,1%)

«Яблык» - 5,98% (замест 4,3%)

СПС - 5,12% (замест 4,0%)

Супраць усіх - 5,17% (замест 4,7%)

Такім чынам, ужо зараз можна меркаваць, што «Яблык» і СПС усё ж пераадолелі б 5-працэнтовы бар'ер у Думу. Між тым, па афіцыйных падліках, яны аказаліся за бартом Думы.

## Іракскі асаблівы трыбунал



Амерыканцы плануюць стварыць у Іраку асаблівы трыбунал для крымінальнага пераследу асобаў, абвінавачаных «у генацыдзе, злачынствах супраць чалавечнасці і іншых ваенных злачынствах». Амерыканцы жадаюць, каб новая судовая інстанцыя запрацавала, аднак не жадаюць пры гэтым выглядаць «дырыжорамі».

Ствараемы трыбунал мае намер судзіць самаго Садама Хусейна, калі, канечна, таго ўдасца злавіць. Рэальнымі кандыдатамі апынуцца на лаве падсудных з'яўляюцца чальцы ранейшага кіраўніцтва ў Багдадзе, захопленыя ў палон. Сярод іх называюцца былы віцэ-прэм`ер Тарык Азіз і генерал Алі Хасан аль-Маджыд, вядомы пад мянушкай «Хімічны Алі», бо яму ставіцца ў віну прымяненне хімічнай зброі супраць курдаў.

У адрозненне ад трыбуналаў для былой Югаславіі і Руанды іракскі не будзе дзейнічаць пад эгідай ААН.

## Міжнародны трыбунал



Гаагскі трыбунал прыгаварыў былога генерала баснійскіх сербаў Станіслава Галіча на дваццаць гадоў зняволення. Гэта першы прыгавор, які вынесены ваеннаму злачынцу, які кіраваў асадай Сараева ў 1992-1995 гадах.

Большасцю галасоў суд прызнаў Галіча вінаватым у пяці злачынствах супраць чалавецтва і ў ваенных злачынствах, у тым ліку ў забойстве і жорсткіх дзеяннях. Два іншыя абвінавачванні Галіча былі адхілены. У часе той вайны генерал Галіч кіраваў корпусам, які мэтанакіравана расстрэльваў мірных жыхароў. Па словах аднаго з суддзяў, «на людзей нападалі ў часе пахаванняў. У дзяцей стралялі, калі тыя гулялі на вуліцы». За гады асады Сараева загінулі дзесяць з паловай тысяч чалавек, у тым ліку 1.800 дзяцей. Яшчэ каля 50 тысяч чалавек былі паранены ў выніку жорсткасці ваенных, мінамётных абстрэлаў рынка і стадыёна ў часе футбольнага матча.

## Знойдзена п'еса Менандра

Манускрыпт, які, магчыма, утрымлівае раней невядомыя вершы старажытнагрэчаскага драматурга Менандра, быў знойдзены ў бібліятэцы Ватыкана. Палова з 400 вершаў, перапісаных у IX стагоддзі, адносяцца да адзінай захаванай п'есы Менандра «Буркун», а вось 200 іншых вершаў могуць быць, па словах даследчыкаў, раней невядомымі. Вучоныя спадзяюцца, што расшыфроўка і руплівы аналіз новых фрагментаў дазволіць наноў, праз два тысячагоддзі, прачытаць тэкст, які лічыўся беззваротна страчаным. Менандр, аўтар камедый, які нарадзіўся ў 342 годзе да н. э., лічыцца бацькам сучаснай камедыі сітуацый. Шмат гадоў яго тэксты былі вядомыя толькі па водгуках яго сучаснікаў. За апошнія сто гадоў быў адшуканы цэлы шэраг тэкстаў, у тым ліку п'есаў, і амаль поўны тэкст «Буркуна». Манускрыпт, які знайшлі ў Ватыкане, напісаны на скуры. Раней, чым патрапіць у Ватыкан, ён захоўваўся ў адным сірыйскім манастыры.

 

# Наведвальнікі з Сірыуса



Да невялікага племя дагонаў (200 тысяч чалавек), якое ізалявана жыве на плато Бандыягара ў Малі ў Заходняй Афрыцы, сёння выказваюць інтарэс не толькі этнографы, але і астраномы. Чаму?

Таму што другая зорка сістэмы Сірыус – Сірыус-В – была адкрыта ў 1862 годзе, яе незвычайна высокая шчыльнасць была вызначана незадоўга перад Першай сусветнай вайной, што дазволіла аднесці зорку да катэгорыі «белых карлікаў». Кручэнне нашай Галактыкі даказана ў 1927 годзе, а яе спіральная форма – у 1950 годзе. Гэты пералік навуковых фактаў цікавы тым, што ўсё гэта было даўно вядома ў архаічнай міфалогіі дагонаў. Вядома народу, уся навука якога абмяжоўваецца вырабам рытуальных масак. Рытуалы дагонаў прывязаныя да 50-гадовага перыяду абарачэння Сірыуса-В каля Сірыуса, самай яскравай планеты на небасхіле. Знайсці спадарожнік Сірыуса, вызначыць яго колер, вылічыць перыяд абарачэння і шчыльнасць, не маючы астранамічных прыбораў, немагчыма. Нават спадарожнікі Юпітэра, аб якіх ведаюць дагоны, няўзброеным вокам не ўбачыш.

Дагоны маглі атрымаць звесткі аб будове Сусвету ад старажытнаегіпецкіх жрацоў, тым болей што племя перасялілася ў Заходнюю Афрыку ўсяго 6 стагоддзяў назад. Але старажытныя егіпцяне нічога не маглі ведаць аб выбуху Сірыуса-В у другім стагоддзі нашай эры – іх цывілізацыя загінула нашмат раней. А ў дагонаў гэты выбух з'яўляецца адным з цэнтральных пунктаў міфалогіі. Уяўленні ж аб існаванні ў Сусвеце звышшчыльнага рэчыва, «белых карлікаў», наогул адносяцца да самых сучасных ідэяў. У легендах дагонаў гаворыцца, што ўсе веды людзі атрымалі ад бога, які спусціўся з трэцяй зоркі Сірыуса. Ён з'явіўся ў каўчэгу, які варочаўся. Варачэнне падтрымлівалася «дыханнем» праз соплы. Пры пасадцы каўчэг узняў хмары пылу. Маецца ў іх і малюнак, які злучае сістэму Сірыус і наша Сонца. Аднак аб існаванні трэцяй зоркі ў сістэме Сірыус сучаснай навуцы нічога невядома. Хоць прыхільнікі ў Сірыуса-В сярод астраномаў ёсць.

Гіпотэза аб тым, што архаічная, але астранамічна прасунутая міфалогія дагонаў з'яўляецца доказам старадаўняга візіту прыбыльцаў, была сфармулявана амерыканскім вучоным Робертам Тэмплам у 1975 годзе. З таго часу вакол гэтай гіпотэзы не спыняюцца спрэчкі. З усіх сюжэтаў, звязаных з прышэльцамі, непрафесіяналізм якіх бачны за вярсту, ад міфалогіі дагонаў адмахнуцца нельга. «Белы карлік», спіральныя зоркавыя сістэмы, абарачэнне Сірыуса-В вакол сваёй восі - гэтыя з`явы нельга ўбачыць у самы магутны тэлескоп, яны з'яўляюцца вынікам асэнсавання таго, што назіраюць астраномы, для іх патрэбны высокі ўзровень культуры. Таму нікуды не падзецца ад гіпотэзы аб іншапланецянах. Спусціліся на Зямлю жыхары планеты з сістэмы Сірыус, паведалі землянам аб сваім доме, а ў дадатак перадалі агульныя звесткі аб Сусвеце. Аспрэчваць гэтыя меркаванні даволі цяжка, бо дагонскай астраноміі ўласціва відавочная храналагічная шматслойнасць. Першы слой – уяўленні, характэрныя для архаічнай культуры, калі чалавек ведае толькі аб планетах, бачных неўзброеным вокам. Другі слой – веды, напрыклад, аб спадарожніках Юпітэра – адпавядае астранамічным уяўленням эпохі Галілея. Нарэшце, веды аб сістэме Сірыус ці спіральнай структуры Галактыкі адпавядаюць узроўню навукі першай паловы XX стагоддзя.

Этнографы не бачаць у легендах дагонаў «белых нітак» і паспешлівай падгонкі новых запазычанняў пад старыя міфы. Кожны астранамічны факт у дагонаў злучаны з пэўнымі рытуаламі, якія праследжваюцца па рэліквіях да XII стагоддзя. Гэта таямніца, якая пакуль не патлумачана.

**Сяргей ЛЯСКОЎ**

## Навіны



**Вопратка са скуры кракадзілаў набывае шырокую папулярнасць у Еўропе. Каб задаволіць попыт на дарагі тавар, спецыялізаваная ферма ў Аўстраліі пашырыла пітомнік і давяла вытворчасць да 1.000 апрацаваных скурак на год, прызначаных на экспарт. Гэта значыць, што 1.000 кракадзілаў заканчвае жыццё, каб нейкая модніца надзела адмысловую спаднічку. І абаронцы жывёлаў «не ўздымаюць голас пратэсту». Шмат людзей, калі ўважліва на іх паглядзець, не саступяць у агрэсіўнасці кракадзілам, нават здзяруць з іх скуру, каб потым пахваліцца пяльчаткамі. І пры гэтым хочуць, каб Бог быў да іх літасцівы. У нас няма кракадзілаў, але фермаў, дзе гадуюцца асуджаныя пазбавіцца скуры лісы, трусы, белкі, хапае. Бо людзям не хапае экалагічнай культуры.**

# Мікі Маўсу – 75



Першым фільмам, героем якога стаў Мікі Маўс, лічыцца «Вілі з парахода». Гэты мультфільм Уолта Дыснея выйшаў на экраны 75 гадоў таму. Мікі Маўс адразу атрымаў шырокую папулярнасць. З'явіліся клубы паклоннікаў Мікі Маўса. Яго слава ўзрасла пасля фільма «Фантазія», знятага ў 1940 годзе. Але ў нацыянальныя героі Амерыкі мышаня патрапіла ў 1950-я годы, калі разгарнулася рэкламная кампанія з выкарыстаннем яго асобы. Мікі Маўса тыражавалі на школьных пеналах, майках, гадзінніках, бейсболках ды іншых вырабах, якія купляюць для дзяцей. У выніку вобраз мышаняці зрабіўся неад'емнай часткай «Амерыканы». Мікі Маўс стаў знакамітым амерыканцам, на яго працуе самая моцная ў свеце рэкламная індустрыя. Таму ён зарабляе мільярды даляраў ва ўсім свеце.

У Амерыцы не шкадуюць грошай на стварэнне масавай папулярнай культуры. Дысней таленавіта скарыстаў стэрэатыпы амерыканскага мыслення. Яго Мікі Маўс не мае шляхетнага паходжання традыцыйных казачных персанажаў. Нязграбны мышыны выгляд – гэта не закляцце злога чараўніка, як, напрыклад, у выпадку царэўны-лягушкі, а яго натура, створаная прыродай. Гэта амерыканская версія «маленькага чалавека», ён – Давыд сярод Галіяфаў. Прырода зрабіла яго ўразлівым, а розум і смеласць – непераможным. Упэўнены ў сабе, Мікі Маўс прамяніцца надзеяй на поспех і ўдачу, якія высока цэняцца амерыканцамі.

Мікі Маўс нарадзіўся на экране, але як усе ўдачлівыя героі масавай культуры – ад Шэрлака Холмса да Гары Потэра – выйшаў у жыццё. Сёння, каб па-сапраўднаму пазнаёміцца з дыснееўскім мышанём, трэба пабываць у яго дома – у адным з двух грандыёзных паркаў забаў, якія прыцягваюць у Амерыку мільёны турыстаў з усяго свету.

Задума фларыдскага каралеўства Мікі Маўса даволі дзёрзкая. Адзінае, у чым мае патрэбу гэтае каралеўства, – дык гэта ў турыстах. Акрамя іх, Мікі Маўсу нічога не трэба. У яго ўсё сваё – свая геаграфія, свая гісторыя, сваё мінулае, свая будучыня. Гэты лялечны рай – наіўны і прывабны, прастадушны і займальны. На беразе жывапіснай лагуны размясціліся розныя краіны – Канада, Марока, Францыя, Кітай і тузін іншых. Тут даецца магчымасць зрабіць падарожжа вакол свету за 80 хвілін. Кожная краіна прадстаўлена аўтэнтычнай архітэктурай, таварамі, кухняй. Калі гэта Францыя, то, зразумела, вы знойдзеце Эйфелеву вежу. Калі Мексіка, то афіцыянты носяць самбрэра. Калі Японія, то мяжу будуць ахоўваць бронзавыя самураі. Карацей, зблытаць краіны немагчыма. Але цэнтрам дыснееўскай геаграфіі з'яўляюцца Злучаныя Штаты. Ад іншых краін-атракцыёнаў Амерыка Мікі Маўса адрозніваецца тым, што не дазваляе сабе экзатычных дэталяў. Тут на некалькіх гектарах прадстаўлена чыста настальгічная мара. Глядзець тут у прынцыпе няма на што – тыповая правінцыйная Майн-стрыт: вуліца, ліхтар, пажарная частка, салун. Кажуць, што Уолт Дысней хацеў аднавіць у сваім парку вуліцу гарадка, дзе прайшло яго дзяцінства, – Марселін, штат Мантана. Але гэта не копія горада, а ўспамін аб ім, афарбаваны ў рамантычныя ружовыя таны. А валадар гэтых увасобленых мараў – Мікі Маўс, «маленькі чалавек», які сваім прыкладам навучае ніколі не страчваць аптымізму.

**Вадзім КРУТОВІЧ**

## Самы вялікі акварыум

У кастрычніку гэтага года ў апошнім выданні Кнігі рэкордаў Гінеса японскі акварыум «Курасіо-но умі» зарэгістраваны як самы вялікі акварыум у свеце. Яго рэзервуар мае памеры 35 метраў у даўжыню, 27 метраў - у шырыню і 10 метраў – у глыбіню, ён змяшчае 7.500 тон вады. У акварыуме жывуць 16 тысяч рыб, тры акулы і чатыры скаты. Гэты фантастычны падводны свет і наведвальнікаў раздзяляе самая вялікая ў свеце акрылавая панэль памерамі 22,5 на 8,2 метры. Яе таўшчыня - 60 сантыметраў.

Акварыум быў выраблены па асаблівай тэхналогіі, распрацаванай фірмай «Ніпура», якая знаходзіцца ў горадзе Мікіцё. Яна дазваляе вырабляць таўстыя і празрыстыя акрылавыя панэлі, якія вытрымліваюць ціск вады акварыума і забяспечваюць выдатны агляд. Самым складаным было вырабіць акрылавую панэль вяелічынёй з кінаэкран. Хоць здаецца, што панэль акварыума не мае злучальных швоў, але насамрэч яна складаецца з сямі блокаў агульнай вагой 135 тон. Клей, які злучае сем блокаў панэлі,ператварыўся ў смалу, якая мае такую ж празрыстасць, як і акрыл. Такім чынам, ніштo не парушае агляду акварыума. Акварыум «Курасіо-но умі» быў адкрыты ў лістападзе 2002 года, і з таго часу яго наведалі 2 мільёны 750 тысяч чалавек.

**Yomiuri**

## Новая амерыканская зброя

Новы від псіхатропнай зброі, які дазваляе ствараць на полі бою віртуальную рэальнасць, распрацаваны вучонымі ЗША. Навейшая тэхналогія дае магчымасць праектаваць на любых паверхнях і ў атмасферу віртуальныя вобразы прадметаў, уключаючы самалёты, танкі, поўныя баявыя падраздзяленні і групы за кошт выкарыстання новага пакалення галаграмаў.

Праекцыя выяваў адбываецца з дапамогай лазера і складанага камп'ютэрнага комплексу. Тым самым амерыканскае камандаванне атрымала магчымасць у ходзе баявых дзеянняў ствараць новую віртуальную рэчаіснасць, якая падаўляе волю праціўніка і ўводзіць яго ў падман адносна сілаў, сродкаў і задач падраздзяленняў ЗША.

У 1993–1995 гадах у пустыні ў штаце Каларада праходзілі выпрабаванні гэтага новага віду ўзбраенняў. Па амерыканскіх дадзеных, яны былі выключна паспяховымі, і цяпер новая тэхніка пастаўляецца ў войскі. ЗША, у прыватнасці, могуць «запускаць» віртуальныя верталёты «Апач». Яшчэ адна магчымасць новай віртуальнай зброі – утварэнне на полі бою вобразаў гістарычных ці легендарных асобаў, уключаючы прарокаў, якія карыстаюцца неабвержным аўтарытэтам у праціўніка. «Падобны вобраз, які аддае сваім паслядоўнікам загад скласці зброю, будзе мець вельмі моцны псіхалагічны эфект на войскі», – лічаць спецыялісты.

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13

E-mail: nchas@tbm.org.by

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні УП «Светач».
Ліцэнзія ЛП № 187 ад 09.01.2003 г.
220030, Мінск, вул. Першамайская, 7. Замова № 2212
Падпісана да друку 12.12.2003 (12:00)
Наклад 2 300 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе:
Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 288-23-52, 284–85–11